
Дабравольцы → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Сяргей Кішыцкі → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 08 (3171) Год LXII Беласток, 19 лютага 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Амаль шэсцьдзясят народных калектываў з Падляшша сабраліся ў беластоцкай „старой» філармоніі па вуліцы Падлеснай. Цэнтральны адборачны канцэрт XXIV выпуску Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-2017» (як конкурс гэта 48 выданне) арганізаваны Беларускім грамадска-культурным таварыствам, сабраў сотні аматараў роднай песні, якія часам у сямейнай урачыстай гронцы набылі квіткі ў філармонію. На сцэне выступілі, співаючы па адной песні, пераможцы раённых аглядаў фестывалю ў Беластоку, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Сямятычах і Дуброве-Беластоцкай. Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ, з радасцю падкрэсліў: «Беларуская песня сярод беларускай нацыі на Беласточчыне жыве і развіваецца».**


Віктар Маланчык, Мікола Мяжэнны і Люба Гаўрылюк на фоне гурта «Цаглінкі»

# Найлепшыя пеюны Падляшша

Фота і тэкст **Міры ЛУКШЫ**

— Гэта вялікае свята беларускай песні. Яно сведчыць, што беларуская культура была і ёсць прысутная на Падляшшы, ды з'яўляецца яго неад'емнай часткай, — сказаў Міхаіл Рыбакоў, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы, аднаго са спонсараў мерапрыемства. — Тут велізарны пласт і культуры, і співаў, і этнаграфічных здабыткаў. І гэта проста цуд нейкі захаваўся і дае магчымасць тут, у Польшчы, ведаць, што ёсць такая выдатная культура як беларуская, што ёсць карані беларускага народа, і што нам таксама ёсць чым ганарыцца. І гэта вялікая праца, якая робіцца беларусамі Падляшша, яе нічым нельга ацаніць. Усё гэта ідзе ад душы, з каранёў тых людзей, якія тут жывуць.

— Збірае нас у гэтай зале адно — любоў да роднай песні і беларускай культуры, — адзначыў пачынаючы мерапрыемства намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень. — У песні прагучала «Сямятычы, Бельск старынны, Гайнаўка, зялёная Дуброва», і калі дадамо яшчэ сталіцу Падляшскага ваяводства, атрымаем тыя паветы, адкуль прыехалі пераможцы раённых аглядаў. Пераможцамі фестывалю можна ўжо назваць усіх, усіх хто выступіў, хто прыняў удзел у нашым сёлетнім фестывалі. Гэта праява вялікай любові да беларускай песні, беларускай музыкі, і вялікі дзякуй усім выканаўцам за гэтую любоў.

працяг → 10


«Спадчына» з Бельскага белліцэя

У катэгорыі **аўтэнтычнай фальклорнай песні** перамаглі вядомыя здавён пяўнні-**салісткі**: Лідзія Маліноўская з Бельска-Падляшскага (I месца), Галена Ляховіч з Гарадка (II месца), Валянціна Кажанеўская з Супрасля (III месца), вылучана Вера Нічыпарук з Малінік. Сярод дуэтаў, трыо і квартэтаў перамагло трыо «Сваячкі» з Бельска. Сярод вакальных калектываў на II месцы апынуліся Сямейны квартэт з Ракавіч і «Жэмэрва» са Студзівод. Сярод выканаўцаў **апрацаванай фальклорнай песні** на III месцы апынулася Ніна Шыманская з Орлі, у дуэтах, трыо і квартэтах на I месцы — сямейнае трыо «Трыяда» з Макаўкі, трыо Маліноўскіх з Бельска, на II месцы — дуэт Маргарыта Мацкевіч і Віялета Боцюк са Студзівод. Сярод вакальных калектываў пераможцы: квінтэт «Доўгі вечар» з Гайнаўкі (I месца), «Куранты» з Бельска (II месца), «Чыжавяне» з Чыжоў (III месца); вылучана жаночая група «Цаглінак» са Старога Ляўкова і «Верасы» з Вілінава. Сярод **вакальна-інструментальных** калектываў: на I месцы «Немаральная прапанова» з Давідам Кротам, на трэцім месцы: «Жар» з Сарнак. Сярод **хароў**: I месца — «Гармонь» з Ласінкі, «Загадка» з Супрасля; II месца — «Васілёчкі» з Бельска; III месца — «Цаглінкі» са Старога Ляўкова.

У **сучаснай песні** першае месца заваявалі **салісткі**: Марта Маліноўская з Бельска, Марыя Врублеўская з Гарадка, Марыя Мартынюк з Бельска; другое: Юліта Ваўрашук з ГДК у Гайнаўцы, Марлена Бяглюк з ГДК у Гайнаўцы; трэцяе: Караліна Мірак з ГДК у Гайнаўцы, Магдаліна Маліш з Бельскага белліцэя, а вылучаны Янка Петушынскі з Грабянёў. Сярод дуэтаў, трыо і квартэтаў II месца заняло трыо Маргарыта Паўлючук, Кацярына Сянкевіч і Ала Каменская з Беластока. Сярод **вакальных калектываў** галоўны пры дастаўся «Світанку» з Беластока, а на I месцы апынуліся: Студыя эстраднай песні з Гайнаўкі (пад кіраўніцтвам Марты Грэдаль) і «Оморфорс» з Сямятыч (пад кіраўніцтвам Галены Шчыгол). На II месцы: «Рэчанька» з Козлік; жаночая група хору «Каласкі» з Беластока; «Спадчына» з Бельскага белліцэя; на II: «Калінка» з Беластока, жаночая група «Чыжавян», «Расспяваны Гарадок» з Гарадка, а вылучаны — «Мікрон» з Беластока пад кіраўніцтвам Віктара Маланчыка. Сярод вакальна-інструментальных калектываў: на першым месцы — «Давід Шымчук Бэнд» з Гайнаўкі, «Маланка» з Бельска; на другім — жаночая група «Маланкі» з Бельска; вылучэнне — «Гай» з Беластока. Сярод **хароў**: на I месцы: «Крыніца» з Беластока; на II — «Каласкі» з Беластока; вылучэнне — «Рэха пушчы» з Гайнаўкі.





# Прывід Адольфа

Прывід блукае па Еўропе. Нават не толькі па старой, ужо нядобрай Еўропе, а па ўсім свеце блукае прывід Адольфа Гітлера. Відзежы, незвычайныя праявы і з'яўленні то тут, то там бударажаць і ўзрушваюць грамадства, не даюць спакою паліцыі і іншым сілавым структурам. На мінулым тыдні нячысцік дабраўся ажно да Гаваяў, дзе на тэнісным матчы паміж жаночымі дружынамі ЗША і Нямеччыны паблытаў фанаграмы гімнаў. На цырымоніі адкрыцця арганізатары афіцыйнай сустрэчы запусцілі ў дынаміку замест сучаснага гімна Германіі нацысцкі гімн — „Дойчлянд убер аллес", забаронены яшчэ ў 1945 годзе. Нямецкія фройляйн спярша пасмяяліся, потым, відаць, навучаныя кіраўніцтвам, выказалі сваё абурэнне. Урэшце амерыканцы склалі прабачэнні, інцыдэнт загладзілі. Але што рабіць з прывідам?!

А вось на радзіме шалёнага фюрэра, у невялічкім гарадку Браўнаў-ам-Ін зараз шукаюць двайніка лідара Трэцяга Рэйха. Перыядычна на вуліцах гэтага горада з'яўляецца малады чалавек у абліччы незабыўнага Адольфа: то ля дома, дзе з'явіўся на свет тады яшчэ невядомы Шыклгрубер-малодшы, то ў кнігарнях, дзе ён уважліва чытае часопісы і іншыя выданні пра гісторыю Другой сусветнай вайны. Аматара такіх эпатажных перформансаў напэўна вылавяць і строга пакараюць, але што ж рабіць з прывідам?!

Смех смехам, жарты жартамі, а рэальна сітуацыя ў Старым свеце вось-вось хіснецца з даведзенай да абсурду „левай" дэмакратыі да крайне правай палітыкі. Аналітыкі называюць гэта „эфектам маятніка". Прычым прыйдуць новыя лідары да ўлады праз дэмакратычныя выбары. Новая хваля палітыкаў, якія вызнаюць ультраправыя, а часам і выразна нацысцкія погляды, узнімаецца ўсё вышэй. Ледзь не перамог у Аўстрыі такі прэтэндэнт на ўладу, у Францыі мае шанцы стаць на чале дзяржавы Мары Ле Пэн, якая ўзначальвае „Нацыянальны фронт". У той жа Нямеччыне на розных рэгіянальных выбарах набіраюць сілу нямецкія радыкалы, якія прапануюць простыя выразшэнні складаных праблем. Так што эпоха Ангелы Меркель няўхільна падыходзіць да свайго канца. Усе гэтыя палітычныя колы, якія раней былі проста маргіналамі, у сваіх знешніх прыярытэтах арыентуюцца на пуцінскую Расею, а многія наўпрост звязаныя з ёй цеснай супрацай. Так што крызіс агульнаеўрапейскай палітыкі апошняга дзесяцігоддзя можна ўжо называць крахам. Ужо і пра канец грашовай еўравай зоны загаварылі. Усё гэта на руку крамлёўскім уладарам, якія маюць нямала трывалых саюзнікаў і партнёраў у новых палітычных элітах і бізнес-колах кантынента. Пры такім развіцці падзей карычневы пас можа падперазаць большую і галоўную частку Еўропы.

Маскоўскай уладзе застаецца зараз такая дробязь як утрыманне сваёй улады. Нібыта ёй нічога і не пагражае зараз у самой краіне. Галоўная ж праблема — гэта заблытаная ідэалогія вярхоўнай прапаганды. Яна цэлы час пакутуе, імкнучыся спалучыць „чырвонае" з „карычневым". То Мікалая Другога кананізуюць, то Калчака бэсцяць. То былую царскую імперыю хваляць з чарнасоценным праваслаўем, то антыхрысту Леніну ў маўзалеі пакланяюцца. Такі вось ідэалагічны кактэйль у сотыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі. А трэба ж яшчэ ўсё гэта падмацаваць любоўю народа і скразным патрыятызмам. Вось у азіяцкіх краінах усё прасцей, там народная любоў да мясцовых падзішахаў традыцыйна набывае татальны і ўсеагульны характар. Новы-стары кіраўнік Туркменістану Гурбангулы Бердымухамедаў на абранні прэзідэнта гэтай краіны назбіраў па выбарчых сусеках амаль 98 адсоткаў галасоў. Яшчэ 8 зацятых „апанентаў" Бердымухамедава наскрэблі разам ажно два працэнты. Лідары „дружаственных" Туркменістану дзяржаў Валодзя і Саша могуць толькі абзіздзяца на такія вынікі.

Дык вось у Расеі нават адмысловы Дзень патрыёта прапаноўваюць усталяваць. Хоць патрыятызм там нібыта і так зашкальвае. Але патрыятызм — гэта зусім іншае. Бо патрыёт — гэта той, хто любіць сваё, але пры тым паважае чужое. А ў дзяржаве, якая нібыта перамагла гітлераўскі фашызм, зараз дамінуюць ксенафобія, шавінізм, антысемітызм, якраз блукае прывід Адольфа.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Ці боль можа быць каштоўнасцю?



Элегантнасць у кожным аспекце гэтага паняцця — ашчадная. Як у словах, так і жэстах, так і ў манеры і вопратцы, і перш за ўсё ў паўсядзённых паводзінах. Любы лішак дыскваліфікуе кагосьці ў яго імкненні да элегантнасці. Параўноўваючы элегантачку з нуварышскай расійскай эліты, абвешанай золатам і кожны дзень у собалевым палантыне, з элегантачкай буржуазнага Парыжа, лёгка зразумець розніцу паміж тым, што сціплае, ашчаднае, упэўненае ў сабе, і тым што афектаванае, крыклівае ды поўнае схаваных комплексаў.

Такім чынам, элегантнасць лучыцца з эканомікай, як мудрасць са сталасцю, а ўмеранасць з асцярогай. Ашчаджаючы на лішку, незалежна ад таго, ці маецца ён ад улады ці нараджэння, ці ад набытага матэрыяльнага ці грамадскага статусу, чалавек паводзіць сябе элегантна. Той жа прынцып выкарыстоўваецца і ў дачыненні і да груп людзей. Ці палітычных, ці грамадскіх. Лішак, перабольшанне характарызуе цяперашнюю ўладу ў Польшчы. Той жа лішак паказвае спадарыня Марын Ле Пэн, старшыня французскага „Нацыянальнага фронту". Сабрала яна сімпатыю 25% сваіх суайчыннікаў, і хто ведае, ці яе ксенафобскія лозунгі, нацыяналістычны папулізм і асаблівы філапуцінізм не назначаць новых палітычных стандартаў у гэтай частцы Еўропы. Як гэта паўплывае на немцаў, якіх да гэтага часу ўзначальвае канцлер Ангела Меркель, якая выразна адцінаецца ад традыцыйна прарасейскай палітыкі Германіі, дзе дэмакратыя да гэтага часу не страціла свайго элегантнага ўзору. А на іншыя заходнія краіны?

Элегантнасць гуляе вырашальную ролю ў фарміраванні сістэмы дзяржаў. Сістэма, у сваю чаргу, фарматуе народы. Рысай нацызму і бальшавізму быў лішак — лішак ва ўсім, пазбаўлены элегантнасці. Так у ідэалагічным сэнсе, як і практычным. Адным словам, былі гэта нерэалістычныя рэжымы, што паказаў ганебны канец гэтых сістэм. Палітычнай сістэмай, спалучаючай рэалізм з практыкай, з'яўляецца дэмакратыя — на жаль, такая ж кульгавая як чалавечая прырода. Але гэта адзіна вядомая нам сёння структура, якой вызначальным фактарам з'яўляецца палітычна ўразуметая элегантнасць: значыць, сцiранне адрозненняў у сацыяльным дыскурсе, ураўнаважванне рацый, пошук кансенсусу ў клопаце за якасць права і кожнага грамадзяніна, а затымашчаднасць у судах, павага да меркаванняў іншых, аднача сна з адцураннем ад такога ці іншага лішку. Нямеччына пасля катастрофы нацызму старанна зрабіла ўрок дэмакратыі. Расія ніколі не была руплівай вучаніцай. Як гэта сфармавала гэтыя два народы, усе больш-менш ведаюць.

Кажучы пра нацыі, аднак, я хацеў бы асцерагчыся ад адназначнага вызначэння. Расіяне не ёсць ужо толькі расіянамі, немцы немцамі, палякі палякамі... Гэтая катэгорыя ў сучасным свеце здаецца быць моцна спрэчнай. Так што ўжо не існуюць народы строга аднанацыянальныя. І тут пытанне не так аб іх адзінай этнічнасці якая выяўляецца агульнай мовай, гісторыяй, культурай і геаграфіяй. Праблема тут у ментальным разрыве, які бачыцца ў кожным сённяшнім грамадстве. Павялічваецца разрыў паміж чалавечымі рацыямі і чаканнямі — незалежна ад крыніц, якія гэта інспіруюць, няхай светапоглядная ці ідэалагічнага характару. Бясконцы разрыў паміж пакаленнямі да эпохі глабальнай лічбавізацыі і эпохі кібернетыкі — не менш дзікай і жорсткай, чым часы капіталізму дзевятнаццатага стагоддзя. На найглыбейшую беднасць і выроджанае багацце. На чалавечую годнасць і яе даймаючы недахоп.

Няма ні адной краіны, у якой гэтыя прорвы, разрывы не павялічваліся. Гэта яны дэградуюць народы. У Польшчы гэта адбываецца па меншай меры 25 гадоў, ад часу калі яе грамадзяне прагаласавалі за дэмакратыю, забываючы пра тое, што яе падставай з'яўляецца пазбяганне лішку. Лішку палітычнай жорсткасці, цынізму эліт, пустой ідэалогіі, пагарды да звычайных людзей. Лішак зжэр тое, што адрознівала дэмакратыю пасярод усіх таталітарызмаў і аўтакратызмаў — элегантнасць, якая выражаецца павагай чалавека да чалавека. Цяперашняя Польшча, у аснoўным манаэтнічная, хоць з прыпісанымі да яе праз культурна-гістарычныя прылівы рэлігійнымі і нацыянальнымі меншасцямі, ніяк не з'яўляецца аднародным аб'ектам. Ні палітычным, ні грамадскім. Перш за ўсё не ёсць яна аб'ектам элегантным. Гэта краіна ўсё больш і больш варагуючых плямёнаў.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# За гістарычную праўду — нашу і вашу?

На мінулым тыдні, пішучы пра справу фальшывай прэзентацыі злачыннай дзейнасці Рамуальда Райса «Бурага» ў Беластоцкім аддзяленні Польскага тэлебачання, а дакладней кажучы ў яго інфармацыйным выданні «Аб'ектыў», неяк закрануў я гэтую тэму ў кантэксце яе шкоднасці для польска-беларускіх кантактаў увогуле. Узгадаў, каб менавіта над цяжкімі, гістарычнымі справамі не была апушчана заслона маўчання, а патрэбу, а нават абвязак жыцця ў праўдзе маюць усе народы. І тут мяне раптам чакала неспадзяванка, выказаная міністрам замежных спраў Польшчы Вітальдам Вашчыкоўскім у час прадстаўлення ім у польскім Сейме галоўных прынцыпаў польскай замежнай палітыкі ў 2017 годзе. У сваім выступленні ў чацвер, 9 лютага наконт Беларусі знайшоўся такі абзац: «W ciągu minionego roku dokonała się zmiana polityki polskiej wobec Białorusi. Zrealizowaliśmy szereg ważnych wizyt i spotkań bilateralnych, które znacząco poszerzyły horyzont naszych stosunków. Podstawowym zadaniem będzie potwierdzenie normalizacji relacji dwustronnych konkretnymi decyzjami przede wszystkim w zakresie współpracy gospodarczej, granicznej i wymiany handlowej, a także w zakresie normalizacji relacji ze środowiskami Polaków na Białorusi. Przygotowujemy się także do uruchomienia Polsko-Białoruskiej Komisji Historycznej».

Менавіта ўзгаданне пра стварэнне ў бліжэйшай будучыні мінска-варшаўскай гістарычнай камісіі павінна быць таксама ў полі зацікаўлення і зроку нашай беларускай меншасці ў Польшчы. Безумоўна, такія камісіі паміж суседнімі народамі і дзяржавамі павінны існаваць і працаваць на кожным памежжы ўжо здаўна. Нічога канкрэтнага пра яе склад і абсяг тэматычны яшчэ не ведаем. Трэба толькі спадзявацца аднаго, каб чарговы раз гісторыкі не сталі інструментам у руках палітыкаў і іхніх канцэпцый дзяржаўна-гістарычнага мінулага. На працягу ўсіх двухбаковых польска-беларускіх дыпламатычных дачыненняў такія спробы ўжо былі. Але менавіта па прычыне палітыкі і блізарукасці міністэрскіх дзеянняў усё адмірала натуральнай смерцю. Таму з пэўным лёгкім недаверам і падазронасцю гляджу на такія акты, дэклараваныя на самым высокім узроўні. Асабліва памятаючы і маючы на ўвазе, што здарылася хаця б з выкінутымі гісторыкамі з Гродзенскага ўніверсітэта і іншых беларускіх ВНУ, менавіта за беларускі пункт гледжання. Дык каго беларускі бок прызначыць у тую камісію — прарасейскіх «едзінарусаў»?

Для нас самая важная справа, каб у складзе польскай часткі камісіі апынуліся і нашы гісторыкі з Беларускага гістарычнага таварыства. Іх удзел выдаецца натуральным і запатрабаваным дзеля гістарычнай праўды, бо ніхто ж не можа папракнуць нашых гісторыкаў у іх прафесійнасці і навукова-выдавецкіх поспехах. Тым, што Беларускае гістарычнае таварыства дасягнула на грамадскіх пачатках на працягу свайго існавання, часамі не можа пахваліцца не адзін гістарычны інстытут у рамках сваіх універсітэцкіх абавязкаў, не гаворачы пра ўзровень прафесіяналізму. А калі гаварыць пра беларускую тэматыку, то для нікога не павінна быць здзіўленнем, што можам з поўнай адказнасцю гаварыць пра існаванне беластоцкай, беларускай школы гісторыі. Таму адсутнасць сяброў БГТ у саставе такой камісіі была б палітычнай змовай міністэрскіх чыноўнікаў з абедзвюх краін. Лепш цяпер дзьмухаць на халоднае і выносіць тэму, чымсьці прачнуцца з рукой у гаршку.... Таксама вельмі добра склалася, што ўрэшце з'явілася «Гісторыя беларусаў Падляшша», выдадзеная на польскай мове, якая распавядае пра нашу шматвекавую прысутнасць на гэтай частцы пасялення беларускага этнасу. Кніжка, якая для нас усіх з'яўляецца пацвярджэннем інтэлектуальна-грамадскага патэнцыялу нашай меншасці, у гэтых няспакойных часах становіцца таксама нашым шчытом і мячом. Тым шчытом і мячом са старадаўняй літоўскай Пагоні, якой пабагдановічаўску «не разбіць, не спыніць, не стрымаць». Калі нават «нашы і вашы палітыкі» не захочуць бачыць беларускіх гісторыкаў з Беласточчыны ў працах камісіі, то не змогуць ужо абмінуць маўчаннем падляшскай гісторыі беларусаў, напісанай імі самімі.

**Яўген ВАПА**

Гаварыць пра Украіну палякам цяжка. Калі глядзець на яе як Стасюк, то арыенталізм, бо захапленне над разваленымі хатамі. Калі наракаць, то посткаланіялізм, бо гэта было польскае, а цяпер не шануюць. Як ставяцца да яе беларусы? Менавіта Польшча стала першай краінай, у якой дабраволец з Беларусі Янка Мельнікаў шукаў падтрымкі для ваенных дзеянняў на Усходзе. Дабравольцы-ўкраінцы падобных яму называюць казакамі, як і ўсіх іншаземцаў, якія ваююць за Украіну. На думку пісьменніцы Аксаны Забужко, патэнцыял кожнай нацыянальнай культуры можна мераць тым, колькі людзей іншага нацыянальнага паходжання яна ўцягвае ў сябе. Гэта доказ яе сілы.

❖Уршуля ШУБЗДА

# ДАБРАВОЛЬЦЫ

## „САМУРАЙ”

**Львавянін, удзельнік падзей на сталічным Майдане Незалежнасці падчас аранжавай рэвалюцыі 2004 года не быў з боку грамадзянскага супраціву і падчас рэвалюцыі годнасці 2013-2014 гадоў. Актывіст і вядучы начной варты Майдана Сяргей Пахілевіч у час рэвалюцыі атрымаў раненні, аднак гэта не спыніла яго ў намеры абараняць Украіну ад агрэсара, таму запісаўся ў дабравольніцкі батальён «АУН» . Байцы батальёна «АУН» дыслакаваліся ў сяле Пяскі і прыкрывалі правы фланг абаронцам данецкага аэрапорта разам з добраахвотніцкім корпусам «Правага сектара», батальёнам «Днепр-1», 93 і 95 мотастралковымі і 17 танкавай брыгадамі. Сяргей узяў сабе пазыўны «Самурай», разам з баявымі таварышамі стаяў на пазіцыях у акопах. Месца дыслакацыі нельга лічыць бяспечным.**



фота Уршулі ШУБЗДЫ

**— Ведаеш напэўна, што ўбілі Гіві?**

— Ведаю. Страшны быдляк быў. Убілі яго свае.

**— Ты ваяваў пад арганізацыяй АУН?**

— Так. І даваў тую самую прысягу, што хлопцы з АУН у 1944 годзе. Гэта малітва.

**— Але тую ж самую малітву-прысягу даюць і замежныя дабравольцы?**

— Не, яны не прысягаюць. Але былі з намі разам беларусы, мусульмане, будысты, грамадзяне Італіі, Швецыі і нават байцы з Расіі.

**— А на Тваю думку тыя дабравольцы з іншых краін, з Беларусі змагаюцца за тое, што і вы, украінцы?**

— Яны не змагаюцца за Украіну як такую. Яны змагаюцца за свабоду, за Беларусь. Гэта казакі, яны не хочуць быць рабамі. Беларусы, грузіны, рускія з фронту для мяне героі.

**— Ты атрымліваў грошы за ваенныя дзеянні?**

— Не. Я дабраволец. Нават калі я быў бы паранены, не атрымаў бы ні граша на лячэнне. Даставалі столькі, колькі ўдалося сабраць валанцёрам.

**— Пэўна ўжо хутчэй добраахвотнікі чакалі смерці чым трывалага калецтва?**

— Так. Там не баяліся смерці. Смерць ад кулі або ад снарада забірае хутка. Без нагі, рукі застаешся паўчалавекам на цэлае жыццё. На дадатак адзін, без падтрымкі.

**— З чаго жывеш ?**

— Я пацярпеў на Майдане. Прастрэлілі мяне ў левае лёгкае. Атрымаў пенсію — на папяросы і яду хапае.

**— Гэта неадэкватная падтрымка ў параўнанні да Тваёй „паслугі”. Дзяржаве абыякавыя дабравольцы? Магло б здавацца найбольш ідэйныя людзі?**

— Нават калі б не гэтая пенсія, мае браты з фронту не дазволілі б мне здохнуць. Усётакі вы нават не ўяўляеце, як гэта ляжаць дома і глядзець на столь. Як вольна мінае час. Меў тое ж самае пасля Майдана. Сябры прыносяць каву, папяросы, прадукты, нейкія рэчы... але не думаюць пра тое, чым чалавек зойме галаву.

**— Магу толькі дадумвацца, што цяжка дайсці да сябе ад усяго ўбачанага. Там паўсюдна смерць, якую напэўна і Ты „нёс”?**

— А як думаеш? Што я рабіў на вайне? Гуляў у шахматы?!

**— Ясна. Тады чаму Ты вырашыў так бескарысна аддацца справе, ведаючы колькі можаш страціць?**

— Калі пасля Майдана хадзіў я ў ваенны шпіталь, спалохаўся, калі ўбачыў ваенных з абпаленымі тварамі, без рук і ног. Я тады і ўявіць сабе не мог, што пайду служыць у войска. Спачатку ўбачанае забрала з мяне падобнае жаданне. Аднак, ужо пасля месяца наведвання ваенных мой страх перарос у злосць. Убачыўшы, што добраахвотнікам у шэрагі «Азова» пайшоў сын майго сябра, я зразумеў, што не магу больш заставацца абыякавым на гэтыя падзеі. Тэорыю спазнаў у Львоўскай акадэміі сухапутных войскаў, а практычныя навыкі атрымаў на Яварыўскім палігоне, страляючы з пісталета і аўтамата. Неўзабаве запісаўся ў дабравольніцкі батальён «АУН». Калі ехаў на вайну, мне было страшней, чым калі я ўжо прыбыў да месца дыслакацыі баявога падраздзялення. Пабываўшы пяць дзён, я пачаў вельмі хутка прывыкаць да ваеннай абстаноўкі. У мяне пачало складвацца ўражанне, што я ўсё жыццё правёў на вайне.

**— Зараз Ты дома. Чым займаешся?**

— Адпачываю.

**— Ты гаварыў, што добраахвотнікі маглі, і могуць разлічваць толькі на падтрымку сабранымі валанцёрамі грашыма. Паколькі вайна цягнецца ўжо амаль тры гады, людзі напэўна таксама не маюць такіх магчымасцей, хаця волю напэўна так, каб падтрымліваць дабравольцаў, а і Правы сектар страціў крыху грамадскі давер. Гэта адчувальна?**

— Гэта па-рознаму. З аднаго боку давяраюць Праваму сектару, з другога... баяцца. Не ведаю, некаторыя лічаць гэтую арганізацыю нейкай... вядзьмарскай. Я маю шмат сяброў з Правага сектара з фронту. Яны, тыя якіх ведаю, сапраўдныя патрыёты.

**— На пачатку размовы Ты ўспомніў, што сёння (размова прайшла 09.02.2017) Твой дзень нараджэння. Чаго сабе жадаеш?**

— Ага...не маю мар. Заўтра падаюся ў Карпаты з сябрамі. Проста паглядзець на Карпаты ў снезе — гэта вельмі прыгожае.

**— А для Украіны?**

— І так усё будзе добра. Я гэта ведаю. Я — невялікая кропля ў акіяне.



фота Аляксея ТРУБКІНА

## „БІЛОРУС”

**Да добраахвотнікаў завербаваўся ў пачатку вайны. Змагаецца за свабоду, супраць імперскім памкненням Расіі. Паводле закона ён, беларус, не можа служыць для іншай краіны. За гэта пагражае нават пазбаўленне волі. Таму на радзіму пакуль вярнуцца не можа. Ніхто яму не плаціць, да ўдзелу ў вайне ніхто не намаўляў.** Баец тактычнай групы «Беларусь» у складзе ўкраінскіх сіл Ян Мельнікаў **з місіяй наведвае Заходнюю Еўропу. Пазней вяртаецца на фронт.**

**— Ты падаешся ў Еўропу з мэтай інфармавання грамадства аб сітуацыі ў Данбасе, але таксама як валанцёр, які збірае грошы дзеля падтрымкі дабравольцаў. Думаеш, што на Захадзе ёсць зацікаўленне, заклапочанасць сітуацыяй ва Украіне і воля падтрымкі?**

— У Антверпене, Рыме, Мюнхене ведаю, што дапаможа ўкраінская меншасць. Туды менавіта падаюся.

**— Толькі на ўкраінцаў? На беларусаў нельга разлічваць?**

— Наадварот, я лічу што трэба разлічваць і на беларусаў, але разумею, што не заўсёды, не ў кожнай краіне атрымаецца.

**— Сёння ты баец, валанцёр, змагар і для шматлікіх герой. З чаго гэта ўсё пачалося?**

— Пакуль быў Майдан, я актыўна сачыў за падзеямі, хваляваўся за ўкраінцаў, падтрымліваў іх, але ў інтэрнэце! Сядзеў на канапе, пісаў у сацыяльных сетках, якія малайцы ўкраінцы, што беларусы з імі: „Давайце, змагайцеся, скідайце аковы”. Але калі я ўбачыў, што ўкраінцы пачалі страляць, зразумеў, што ціскаючы па клавіятуры зброі не спыніш. У інтэрнэце вяваць гэта крута, але зброі не спыніць. Але калі забілі Жызнеўскага, калі гэта было б у Польшчы, я паехаў бы ў Польшчу, калі на Літве, паехаў бы на Літву.

**— У Цябе такое пачуццё справядлівасці тое бярэцца з салідарнасці?**

— Я не забуду, калі глядзеў з бацькам НТВ. Там у навінах паказалі расійскіх жаўнераў з адрэзанымі праз чачэнцаў вушамі. Бацька сказаў: „А знаеш, што яны, акупанты, рабілі з чачэнцамі, і не з вайскоўцамі, проста з цывільным насельніцтвам. Дзяцьмі, жанчынамі... тысячамі скідвалі ў агульную магілу і стралялі. Я бачу гэта і зараз. З тымі акупантамі цяжка ваяваць паводле нейкіх там законаў вайны”. Я ўжо тады зразумеў што гэта Расія, што гэта за акупант. Тое таксама паўплывала ў нейкай ступені на маё рашэнне.

**— Мова не вызначальная на фронце, усё-такі Твая беларуская мова не здзіўляе?**

— Калі я яшчэ ваяваў на Майдане, пазнаёміўся з адным украінцам. Ён крыху ведаў украінскую мову, але наогул рускамоўны. Аднойчы сабраліся правасекі і іншыя хлопцы. Пачалі гаварыць, я ім распавядаў што гэта такое Беларусь, як у нас справы... Сабралася ўжо такое кола, я гавару, распавядаю... У канцы адзываецца той украінец: „Ну так. Украінская мова ў цябе гарная. Давай нешта скажы па-беларуску!” (*смех*)

**— Многа такіх як Ты на фронце? Дабравольцаў з Беларусі?**

— Можна іх лічыць у сотнях. Ужо існуе самастойная баявая адзінка. Раней мы былі згуртаваныя на платформе арганізацыі Правы сектар.

**— На фейсбуку я бачыла ролік, у якім Ты прыняў выклік і таксама прыняў удзел у флэшмобе, які праводзіўся ў падтрымку ветэранаў баявых дзеянняў, якія пакутуюць ад ПТС — посттраўматычнага сіндрому. Сам такога не баішся?**

— Я лічу, што я псіхалагічна вось ужо зараз моцна ўсталяваны. Вайна падзяляе людзей у псіхалагічным плане на два тыпы: тых, якіх яна не ломіць і загартоўвае, і якіх псіхічна знішчае. Я цяпер, гледзячы на пацярпелага, забітага сябра з фронту не псіхую. Дапамагу, замотваю бінтам... Магчыма, гэта ўжо праблема.

**— Не думаеш аб гэтым, што Ты можаш быць на месцы таго мужчыны?**

— Я ведаю проста, што не атрымаю ніводнага ранення, што не загіну тут на вайне.

**— Добра. Скажам, вайна паспяховая для ўкраінцаў, для Цябе, канчаецца. Што плануеш рабіць далей?**

— Нармальна жыць, абзавесціся сям'ёю, ажаніцца, мець дзяцей, працаваць настаўнікам гісторыі... Жыць на Беларусі.

**— Пакуль не можаш туды вярнуцца.**

— Веру, што змагу... што і там памяняецца.

# Ці багатая Арлянская гміна?

Арлянская гміна, з пункту гледжання бюджэтных даходаў на аднаго жыхара, лічыцца багатай. Лік ейных жыхароў, у большасці пажылых людзей, з кожным годам падае, а гміна такім чынам „багацее". Папраўдзе, людзі ў Арлянскай гміне, так як і ўсюды, бедныя, а кожная чацвёртая асоба карыстаецца сацыяльнай дапамогай.

Гмінныя ўлады дбаюць пра гміну і яе жыхароў, узнікаюць новыя інвестыцыі. Палітыка развіцця гміны, — як падае войт у „Паведамленнях з Арлянскай гміны" — была і ёсць накіравана на публічныя інвестыцыі, якія прычыняюцца да росту ўзроўню жыцця жыхароў, ды на неабходныя змены, якія заахвочваюць інвестараў. У 2007-2016 гг. здзейснены інвестыцыйныя задачы вартасцю каля сарака мільёнаў злотаў (26,5 млн зл. уласных сродкаў і 13,5 млн зд. сродкаў звонку).

За сваё „багацце" гміна мусіць плаціць г.зв. яносікава, да якога людзі ставяцца па-рознаму. Войт Пётр Сэльвесюк на сесіі Гміннай рады 29 снежня 2016 года так патлумачыў гэтую праблему:

— На 2017 год нам налічылі 588 227 злотаў янosікавага і мы гэта мусім уплаціць у дзяржаўны бюджэт. Даходзяць да мяне меркаванні некаторых радных, што калі б гміна больш інвеставала, або калі б былі меншыя падаткі, то янosікавага не трэба было б плаціць. А гэта чыстая няпраўда. Бо калі маем плаціць у дзяржбюджэт, то якая рада, які войт, згадзіліся б тое плаціць замiж інвеставаць у сябе? Яносікава функцыянуе так, што нам вызначаюць квоту, якая падзяляецца на дванаццаць рат, і штомесяц, нягледзячы на тое, ці маем грошы ці не, мусім плаціць. Яносікава налічваецца на аснове даходу ў данай гміне на душу насельніцтва. У нас жыхароў мала, а даходы рэлятыўна высокія. І на яносікава не мае ўплыву ні інвестыцыйны размах, ні велічыня падаткаў, ні нашы расходы. Так гэта дзейнічае.

Бюджэт Арлянскай гміны на 2017 год:

— план даходаў — 14 457 001 зл., у тым бягучыя даходы 14 111 381 зл. і маёмасныя даходы 345 620 зл.

— план выдаткаў — 15 527 001 зл., у тым бягучыя выдаткі 11 289 831 зл. і маёмасныя выдаткі 4237170 зл.

— бюджэтны дэфіцыт — 1 070 000 зл., а крыніцай яго пагашэння вольныя сродкі з мінулых гадоў вартасцю 500 000 зл. ды перавышэнне даходаў над расходамі з мінулых гадоў вартасцю 570 000 зл.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Высечка дрэў

З пачаткам студзеня г.г. абавязвае новы закон аб ахове прыроды, таксама аб лясах ад 16 снежня 2016 г. На аснове арт. 83 пкт 1 фізічная асоба можа высякаць дрэвы і кусты на ўласнай нерухомасці без дазволу пры ўмове, што не будзе яно выкарыстана на гаспадарчыя мэты. Тычыцца гэта дрэў і кустоў не толькі пры забудовах, але і на полі ці лясным участку.

Каб пазбегнуць шырока распаўсюджанай высечкі дрэў, гмінныя ўправы маюць магчымасць прымаць рашэнні (на правах мясцовага закону), дзе загадзя акрэсляць якіх дрэў нельга будзе высякаць. У такім выпадку ў праекце павінны быць акрэслены крытэрыі, між іншым, гатунак (сорт), узрост, высечка з прызначэннем на гаспадарчыя мэты, ці запіс у рэестр помнікаў. Як паінфармавалі мяне ва Управе гміны ў Чаромсе, пакуль што гміна не прыняла іншага рашэння, чым акрэслена ў зводзе пастаноў і законаў ад 16 снежня 2016 года.

**(ус)**




# Канікулы ў арлянскім ГАК

Пра культурную працу з наймалодшымі расказвае дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі **Анна НЕСЦЯРУК**.

Арлянскі Гмінны асяродак культуры штогод ладзіць канікулы для дзяцей з тэрыторыі нашай гміны. Раней доўжыліся яны два тыдні, сёлета скарацілі да аднаго тыдня — з 30 студзеня да 3 лютага. Чаму скарацілі? Стараемся насыціць кожны дзень заняткамі. Цягам двух тыдняў дзеці то прыходзяць, то адыходзяць, можа ім крыху нудна, можа задоўга. Зараз мы рашылі наладзіць такія фолькавыя канікулы. Чаму фолькавыя? — пыталі мяне людзі. Гэта прыкоўвае ўвагу. Фолькавыя ад фальклору, ад нашай мясцовай традыцыі, ад нашай культуры. На заняткі прыходзяць 45 дзетак ад дашкольнага ўзросту да вучняў шостага класа.

Пачалі з пластычных заняткаў — былі гэта майстар-класы па дэкупажу з фальклорнымі ўзорамі. Дзеці выконвалі таксама свае праекты на кашульках, займаліся вышыўкай. Пасля ездзілі ў Бельскі музей, дзе дзеці аглядалі выставу вышываных ручнікоў — гэта ж таксама фальклор, вышываныя ручнікі і абрусы, якія бываюць у хатах іхніх бабуль і дзядуль. Дзеці таксама малявалі ўзоры ручнікоў на палатняных торбах.

У праграме канікул было таксама азнаямленне дзяцей з даўнімі танцамі, іншымі, чым тыя, што зараз танцуюць у дыскатэках. Гэтыя заняткі праводзілі Анна і Дарафей Фіёнікі. Быў таксама паказ гульняў, у якія калісь гулялі бабулі і дзядулі дома і на вуліцы. Паказалі дзецям, што не толькі з камп'ютарам ці мабільнікам можна праводзіць час.

Традыцыйна выязджаем у кіно «Helios» у Беласток на дзіцячы фільм; гэта з'яўляецца ўзнагародай за ўдзел у нашых занятках і дзеці заўсёды гэтым задаволены.

Канікулы традыцыйна пачынаем 27 студзеня вучнёўскім турнірам па настольным тэнісе за кубак войта Арлянскай гміны. На турнір заўсёды з'яўляецца войт і іграе з пераможцам у разрадзе звышгімназічных школ; пасля войт уручае дыпломы. Былі такія вучні, якія два разы выігралі з войтам.

На нашы канікульныя заняткі заўсёды многа ахвотных, але іх лік абмяжоўваем, беручы пад увагу колькасць месцаў у аўтобусе; у прынцыпе каля сарака. Дзеці харчуюцца сваёй ядой, а мы запэўніваем ім пластычныя матэрыялы. Дзеці аплачваюць толькі кіно, гміна дае транспарт. Заўсёды з імі 4-5 апекуноў, да таго ж музычны інструктар і інструктар рукадзелля. На завяршэнне канікул кожны іх удзельнік атрымлівае сувенір.

Запісваем дзяцей з пяцігадовага ўзросту да шасцікласнікаў. На жаль, не вядзем заняткаў для гімназістаў. Аднак думаю, што старэйшая моладзь сама знойдзе сабе занятак на канікулы, напрыклад, выязджаючы на іншыя формы адпачынку, або праводзячы час дома. Заняткі доўжацца чатыры гадзіны — з дзесяці да чатырнаццаці.



Вельмі радуемся, што ахвотных дзетак многа, бо пасля большасць іх наведвае Гмінны асяродак культуры, прымаючы ўдзел у іншых занятках: тэатральных ці фатаграфічных. Цягам дванаццаці гадоў маёй тут працы бачу, што ўдзельнікі нашых заняткаў, пасталеўшы, спяваюць у нашых фальклорных калектывах. Можна такім чынам сказаць, што мы выхоўваем артыстаў — рукадзельнікаў, сяброў мастацкіх калектываў ці проста такіх людзей, якія пасля будуць гарнуцца да грамадскай працы. Вось у апошніх гадах прыходзіла студэнцкая моладзь і цікавілася чым можа нам дапамагчы.

## Усё залежыць ад бацькоў

Заняткі вядуцца на польскай мове, але я заўсёды нешта скажу па-свойму і дзеці разумеюць. На гэту тэму можна шмат разважаць. Наша мова чахне, а знікае яна таму, што працы па зберажэнню яе не зробіць ні ГАК, ні настаўнік у школе, а гэту працу павінны выконваць з самага пачатку бацькі, каб прывіць дзецям перакананне, што наша мова вартасная і не трэба саромецца. Я маю двое дзяцей; старэйшая дачка прымае ўдзел у розных конкурсах і спявае ў моладзевым калектыве, але не надта хоча размаўляць на сваёй гаворцы. А вось малодшы сын нармальна гаворыць на нашай гаворцы.

Для прыкладу: пяцігадовае дзіця сутыкаецца з нашай гаворкай; яму лягчэй, калі жыве на вёсцы, бо там старэйшыя людзі, якія збіраюцца на лаўках, яшчэ размаўляюць па-нашаму. Дзеці чуюць іх размовы, прыслухоўваюцца, прывучваюцца. Добра, калі ў кагось у сям'і ёсць бабуля і дзядуля, якія са сваімі ўнукамі размаўляюць па-свойму. І тыя дзеці будуць разумець; можа не адразу стануць гаварыць на мове продкаў, але зразумеюць. Гэта такая пачатковая вельмі складаная праца, якою павінны заняцца бацькі. А пасля асяродкі культуры ці школы могуць удасканаліць тое, што звязана з нашай гаворкай, з нашай культурай — ці гэта будзе спеў, гаворка, ці проста зацікаўленасць традыцыяй, фальклорам, рознымі абрадамі, тэатрам — гэта пасля. А перш за ўсё трэба ўсведамляць дзяцей, што магчымасць размаўляць на мове продкаў — гэта наша багацце.

Дзеці з першага класа вывучаюць англійскую мову — вядома, яна патрэбная. Першы кантакт з расійскай мовай маюць у чацвёртым класе. Бывае так, што некаторыя бацькі не хочуць пасылаць сваіх дзяцей на заняткі беларускай мовы, каб не блыталі яе з расійскай. То я ім тлумачу, што на ўроках беларускай мовы яны знаёмяцца з алфавітам, які амаль такі ж, як і расійскі. І пасля, калі дзіця пачынае вывучаць расійскую мову, то яно ўжо прыгатавана.

Запісаў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Бельск-Падляшскі ў жывапісе

**У Бельскім доме культуры здаўна дзейнічаюць дзве мастацкія майстэрні, якімі апекавалася мастацкі інструктар, а цяпер кіраўнік мастацкай адукацыі БДК Марыя Бабулевіч. Яе вучні дабіваліся поспехаў у мастацкіх конкурсах. Частка ўдзельнікаў майстэрняў працягвала вучобу ў вышэйшых навучальных установах, дзе выкарыстоўваліся іх мастацкія здольнасці. Частка займаецца мастацтвам у сваім далейшым жыцці. Якраз чатыры гады назад Марыя Бабулевіч арганізавала ў БДК мастацкую майстэрню «Atelier», у якой сталі займацца мастацтвам дарослыя асобы. Нядаўна Бельскі дом культуры, бургамістр і Рада горада Бельск-Падляшскі выдалі прыгожы альбом «Бельск-Падляшскі ў жывапісе», у якім змешчаны рэпрадукцыі мастацкіх прац, перш за ўсё жывапісу, які адлюстроўвае архітэктуру Бельска-Падляшскага. Аўтарамі змешчаных там работ з'яўляецца 12 членаў майстэрні «Atelier». Прамоцыя альбома адбылася 10 лютага ў БДК з удзелам мастакоў, працы якіх можна ўбачыць у выданні. Бургамістр Бельска Яраслаў Бароўскі назваў бельскіх мастакоў таленавітымі людзьмі, уражлівымі на акружаючае іх асяроддзе, а дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская сказала, што нававыдадзены альбом будзе добрай прамоцыяй горада і дома культуры, а таксама пахваліла мастакоў за выкананне цікавых прац з бельскай архітэктурай.**



■ Бельскія мастакі з майстэрні «Atelier» разам з дырэктар БДК Малгажатай Біль-Ярузельскай, кіраўніком мастацкай адукацыі БДК Марыяй Бабулевіч, мастацкім інструктарам Шыманам Амбражэвічам і Артурам Ляшчынскім

— На шматлікасць інспірацыі ў альбоме «Бельск-Падляшскі ў жывапісе» перакладаецца культурнае і гістарычнае багацце нашага горада. У альбоме ўбачым творчы плён мастакоў, членаў майстэрні «Atelier», — сказала кіраўнік мастацкай адукацыі БДК Марыя Бабулевіч. Мастацкая майстэрня «Atelier» распачала дзейнасць у Бельскім доме культуры 13 лютага 2013 года. Належаць да яе дарослыя асобы, якіх аб'ядноўвае любоў да мастацтва. Члены майстэрні вучыліся маляванню, рысаванню і іншым мастацкім тэхнікам пад наглядам бельскага мастака Марыі Бабулевіч. Бяльшчане, якія падставам мастацтва навучыліся ў мастацкіх школах, у майстэрні разгорталі свой талент. БДК арганізаваў для членаў майстэрні мастацкія пленэры ў Бельску-Падляшскім і Спічках, персанальныя і калектыўныя выставы. Падчас заняткаў у майстэрні «Atelier» яе ўдзельнікі выконвалі нацюрморт, малявалі краявіды і рабілі працы па іншых тэмах. У рамках дзейнасці майстэрні былі арганізаваны майстар-класы малявання, між іншым, на шкле, выконвання батыку і манатыпіі. Удзельнікі групы «Atelier» асабліва стараліся захаваць на мастацкіх работах даўнюю архітэктуру Бельска-Падляшскага і перш за ўсё гэтыя працы былі сфатаграфаваны і змешчаны ў нававыдадзеным альбоме «Бельск-Падляшскі ў жывапісе». Падчас спаткання ўсім аўтарам мастацкіх прац, змешчаных у альбоме, атрымалі нававыдадзенае выданне. Затым перад публікай выступіў з песнямі Артур Ляшчынскі. Сабраным аматарам мастацтва ў канцы сустрэчы таксама раздаваліся альбомы. За кавай або гарбатай можна было яшчэ паглядзець працы бельскіх мастакоў і пагаварыць з іх аўтарамі. У альбоме і на выставе можна было ўбачыць старадаўнюю і сучасную архітэктуру Бельска — цэрквы, касцёлы, ратушу, карчму, драўлянае жыллёвае будаўніцтва, будынак гарадской установы, мураванае паслуговае будаўніцтва, ці бельскае гарадзішча з вельмі далёкага мінулага ва ўяўленні бельскага мастака Пётра Казлоўскага.

— Ідэяй дзейнасці мастацкай майстэрні «Atelier» з'яўляецца дапамога для бельскіх творцаў і інтэграцыя аматараў мастацтва. Мы ствараем умовы для развіцця талентаў у бяльшчан і іх творчай працы. Яны ў нашым доме культуры ўдасканальваюць свой варштат працы і абменьваюцца вопытам. Наша майстэрня цэлы час адкрытая на новых творцаў, — паведамляе кіраўнік Марыя Бабулевіч, якая не толькі вядзе майстэрню «Atelier», але сама прыгожа малюе і стварае цікавыя мастацкія працы іншымі тэхнікамі.

Марыя Бабулевіч — выпускніца Мастацкага ліцэя ў Супраслі і хаця пасля працягвала адукацыю ў вышэйшай навучальнай установе з педагагічным ухілам, то не пакідала выконваць мастацкія працы, якія паказваліся на персанальных і калектыўных выставах у БДК і іншых выставачных залах. Мастачка мяшанай тэхнікай выканала цікавыя працы з выявамі ўсіх бельскіх прыхадскіх цэркваў, якія змешчаны ў альбоме. Сярод удзельнікаў майстэрні «Atelier» ёсць іншыя выпускнікі мастацкіх школ, а таксама выпускнікі Іканапіснай школы ў Бельску-Падляшскім. Анна Кузыка і Роберт Кос там не толькі навучыліся пісаць іконы, але і навучыліся цярпліва працаваць з фарбамі і пэндзлямі ў руках і гэтыя салідныя падставы дапамагаюць ім таксама рысаваць, выконваць жывапіс і працы ў іншых тэхніках.

— Я тут займаюся з 2013 года і ў тым часе закончыла вучобу ў Іканапіснай школе ў Бельску, вопыт ад якой магу выкарыстаць выконваючы мастацкія работы. Маляваннем я займаюся з дзяцінства. Цяпер з'явілася тут магчымасць вучыцца выконваць мастацкія працы іншымі тэхнікамі і прыглянуцца працы іншых членаў нашай майстэрні, — гаварыла Анна Кузыка, ураджэнка Новага Беразова, якая на XVII Агглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі заняла другое месца.

Майстэрня «Atelier» наладзіла супрацоўніцтва з мастакамі з Кобрынскага палаца культуры і ў планах намечана арганізаваць супольны бельска-кобрынскі мастацкі пленэр.

— Я вучыўся 6 гадоў і займаўся ў Іканапіснай школе ў Бельску і атрымаў там вельмі салідныя падставы не толькі пісання ікон, але і выконвання мастацкіх прац, чым зараз карыстаюся, малюючы і рысуючы ў рамках дзейнасці майстэрні «Atelier», — заявіў бяльшчанін Роберт Кос, які выканаў, між іншым, алейную карціну Міхайлаўскай царквы ў Бельску.

Інакш выяву гэтай царквы прадставіў у пастэлі Пётр Казлоўскі, ужо вядомы бельскі мастак, які, карыстаючыся рознымі тэхнікамі, паказвае ў альбоме Успенскую царкву ў Бельску, каталіцкія касцёлы і даўнюю свецкую архітэктуру Бельска.

— Я многа маляваў даўнюю архітэктуру Бельска і многа здымкаў маіх акварэльных, пастэльных, акрылавых, алейных і іншых прац змешчана ў альбоме. Мая мара — выканаць макеты Бельска з розных перыядаў яго гісторыі. Я на падставе гістарычных інфармацый і сваіх уяўленняў зрабіў макет Лысай горкі ў Бельску з XV стагоддзя і яе фатаграфія знаходзіцца ў альбоме. Я малюю і рысую з часоў, калі яшчэ ў сямідзясятых гадах стаў вучнем бельскай «тройкі», дзе мастацтву вучылі мяне розныя настаўнікі, а і мае бацькі таксама здольныя мастакі. Больш прафесійна вучыўся я мастацтву ў Мастацкім ліцэі ў Замасці, а пасля самастойна разгортваў свой талент. Нядаўна аднаўляў я даўнія надмагільныя помнікі на старым могільніку ў Бельску, а ў майстэрні «Atelier» пазнаёміўся з таленавітымі людзьмі, што для мяне ёсць важным. Рады я, што выйшаў цікавы альбом з жывапісам і работамі выкананымі іншымі тэхнікамі (тушшу, вугалем, у пастэлі, манатыпіі — А.М.), бо паказвае ён прыгожасць Бельска, — сказаў Пётр Казлоўскі.

15 лютага ў Бельскім доме культуры адбудзецца адкрыццё выставы сатырычнага рысунку Тамаша Кажанецкага, таксама члена майстэрні «Atelier». Яго сатырычныя рысункі паказваліся, між іншым, на выставах і друкаваліся ў мясцовых газетах. Яго працы — ратуша на батыку і карчма на алейнай карціне таксама апынуліся ў нававыдадзеным альбоме, побач работ Марціна Крышпінюка, які ад нядаўна належыць да майстэрні. Летам у Бельскім доме культуры маюць прэзентавацца партрэты аўтарства Марціна Крышпінюка, у якога вялікі мастацкі талент. Хоча ён паказаць на экспазіцыі партрэты бяльшчан і іншых жыхароў Падляшша. Партрэты таксама ўдала выконвае Пётр Казлоўскі.

— У кастрычніку гэтага года ў БДК мае быць адкрыта выстава маіх прац «З палёў і агародаў», на якой можна будзе ўбачыць мае работы з кветкамі і іншымі раслінамі, — заявіла бельская мастачка і ад года кіраўнік мастацкай адукацыі БДК Марыя Бабулевіч, якая рыхтуецца таксама да святкавання юбілею. У мастацкай майстэрні «Koloryt», якая паспяхова дзейнічае ў БДК з1987 года і восенню будзе адзначаць 30-годдзе свайго існавання, займаюцца вучні ва ўзросце ад 12 да 18 гадоў. Вучацца яны маляваць, рысаваць, выконваць графіку, батык. Знаёмяцца таксама з іншымі мастацкімі тэхнікамі. У доме культуры ўдала дзейнічае таксама мастацкая майстэрня «Collage», у якой займаюцца дзеткі ва ўзросце да 12 гадоў і яны вучацца перш за ўсё падставам малявання і рысавання. Больш чым палову года вучні з гэтых майстэрняў займаюцца з новым працаўніком БДК і заадно мастацкім інструктарам Шыманам Амбражэвічам, работы якога таксама ўвайшлі ў састаў альбома. Маладыя творцы з мастацкай майстэрні «Collage» і перш за ўсё з мастацкай майстэрні «Koloryt» шматкратна прымалі ўдзел у ваяводскіх, агульнапольскіх і міжнародных конкурсах, здабываючы там узнагароды і вылучэнні. За асаблівыя поспехі ў галіне мастацтва сертыфікат «Падляшскія таленты» маршалка Падляшскага ваяводства атрымалі Малгажата Шэўчувянец, Юлія Скепка, Хрысьціян Веснюк і Наталля Шварц. У мастацкай майстэрні «Koloryt» займаецца многа вучняў бельскай «тройкі», між іншым Сара Паўлоўская, ці Аляксандра Зінкевіч, якую спаткаў я раней у Беластоку на святкаванні юбілею 60-годдзя нашага тыднёвіка «Ніва», як карэспандэнтку «Зоркі».

— У БДК я займаюся ў майстэрні «Koloryt», дзе вучуся розным мастацкім тэхнікам, і ў тэатральным калектыве «Антракт», дзе, між іншым, мы вучымся паказваць нашы абрады. Я вучуся дэкламаваць па-беларуску, — гаварыла Аляксандра Зінкевіч, якая з Сарай Паўлоўскай і іншымі сяброўкамі прыйшлі дапамагчы арганізаваць мастацкае мерапрыемства. — Тут цікавая сустрэча. Нам падабаецца альбом з архітэктурай Бельска.

— Сярод дзетак і моладзі, якія займаюцца ў нашых мастацкіх майстэрнях, найбольш вучняў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім, якія часта прадаўжаюць вучобу ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання. Напрыклад, Наталля Шварц займаецца ў нас з першых класаў пачатковай школы, стала стыпендыяткай маршалка Падляшскага ваяводства і, будучы зараз белгімназісткай, прадаўжае займацца ў нашай мастацкай майстэрні. Выпускнікі нашых мастацкіх майстэрняў прадаўжаюць вучобу ў вышэйшых навучальных установах на напрамках архітэктуры, выконвання ўзораў, ці на спецыяльнасці сцэнаграфіі, — сказала кіраўнік мастацкай адукацыі БДК Марыя Бабулевіч, якая ў канцы сустрэчы запрапанавала бельскім мастакам з майстэрні «Atelier» зрабіць супольны здымак.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



# Як звяры адчуваюць надыход вясны?

У сонечныя лютаўскія дні весела шчабечуць вераб'і і сініцы. Яны наклікаюць радасць і спадзяванні, што неўзабаве завітае вясна. Звяры і птушкі першыя адчуваюць надыход вясны. У лесе ажыўляюцца зайцы, яны наладжваюць сапраўдныя спаборніцтвы, ладзяць між сабой гонкі і скокі. У лютым пачынаюцца лісіныя вяселлі, ліскі шукаюць пары, сваволяць з сабой, гуляюць у падыходы. Таксама ў вавёрак шлюбны перыяд (okres godowy), і той хто пойдзе іх паназіраць у парк, атрымае вялікую асалоду. Вавёркі спрытна праскокваюць з дрэва на дрэва, ганяюцца па снезе, сваволяць як дзеці.

Таксама прачынаецца жыццё ў вадаёмах. Праўда, спяць яшчэ зарытыя ў балотным глеі карасі, карпы і ліні, аднак такія рыбы як ляшчы, плоткі, акуні не спяць. Асабліва добра адчувае сябе пад ільдом мянтуз. Ён выходзіць з-пад карчоў, дзе правёў лета і накіроўваецца на нераст. Ужо ў студзені ментузы адклалі ікрынкі, з якіх народзяцца маленькія ментузы.

Але найбольшым цудам у прыродзе з'яўляюцца народзіны медзведзянят. Яны прыходзяць на свет настолькі маленькімі, што ажно не верыцца. Мядзведжая мама нараджае два-тры звяркі, а кожны з іх важыць толькі 500 грам. Праўда, у апошняе стагоддзе мядзведзі зваліся з Белавежскай пушчы, але ў народзе ўсё яшчэ апавядаюць пра іх казкі і былі.

Мядзведзь ва ўяўленні беларусаў, таксама як у сённяшняй гуцульскай казцы, часта дапамагаў чалавеку. Узамен нашы продкі вельмі асцярожна і тактоўна ставіліся да гэта звера, а ў перыяд нараджэння медзведзянят людзі абміналі бярлогу шырокім кругам, каб не нарушыць спакою касалапай сямейкі.

(зор)

# Вянок на канцэрце

Аздобай і вялікай радасцю для соцень гледачоў Цэнтральнага агляду Агульнапольскага конкурсу «Беларуская песня-2017» у Беластоку было выступленне Беларускага дзіцячага ансамбля танца «**Падляшскі вянок**». Дзейнічае ёй пад апекай згуртавання бацькоў дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову пры Пачатковай школе № 4 у Беластоку ды спадарыні Аксаны Прус. Хлопчыкі і дзяўчаткі, большыя і зусім маленькія, у прыгожых беларускіх строях дынамічна і з тэмпераментам беларускімі танцамі запаланілі прэстыжную сцэну Філармоніі і выклікалі гарачую авацыю ўсхваляваных гледачоў, уцешаных мастацтвам і шчырасцю маладых танцораў.

(лук)



## УВАГА КОНКУРС! № 08-17

Не скажу, што і не любяць,
Ды скубуць мяне ўсе,
Без віны штодзённа чубяць,
Я танчэю пакрысе.
Я ніколі не злуюся.
Бо цудоўны маю дар.
Адгадайце, як завуся?
А завуся...
К.......

(У. Мацвеенка)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 5 сакавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 5-17: прас (żelazko). Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі** Анна Кендысь, Наталля Гайдук, Матвей Зыскоўскі **з КШ № 1 у Гайнаўцы,** Мая Тапалянская, Марта Петручук, Аліўка Порац **з Нарвы. Віншуем!**

Іван Муравейка

## Зімовы сад

Заснежаны, маўклівы,
Наш сад не спіць, а марыць
Пра ручаёк імклівы
І ў небе птушак хмары.
Пра ціхі гром над вуліцай
І звонкія сухвецці,
Пра тое як частуюцца
Антонаўкамі дзеці.

## Мядзведжая паслуга*
### (гуцульская казка)

Гэта здарылася на адной паланіне. Доўгі час нехта закрадаўся ў кашару і забіраў свежы сыр. Пастухі, якія гатавалі сыр, згодна рашылі:

— Так далей быць не можа!

Выкапалі яны глыбокую яму ля кашары і накрылі яе зялёным голлем смерэкі**.

Ноччу прыйшоў мядзведзь красці сыр — ды гоп у яму! Сеў ён у кутку і думае як выкараскацца са смяртэльнай пасткі. Аж тут крадзецца чалавек з суседняй паланіны, таксама па дармовы, смачны сыр. Ступіў на голле і ба-бах, праваліўся ў яму. А калі ўбачыў мядзведзя, сэрца замерла ад жаху. Ён апусціўся на зямлю і чакае, аж касалапы яго разарве. Але мядзведзь думаў пра сваё. Ён схапіў гуцула за грудзі, падняў яго на ногі і прыставіў да сценкі. Пасля ўскараскаўся чалавеку на плечы і выскачыў з ямы.

«Слава Богу, што не з’еў», — падумаў чалавек.

Тым часам мядзведзь схадзіў у лес, зламаў смерэку і вярнуўся да кашары. Засунуў ён дрэва ў яму і чакае…

Наш гуцул яшчэ больш спалохаўся. Ён падумаў, што мядзведзь вярнуўся, каб яго канчаткова прыкончыць. Ды ўвесь атрупянеў аж жаху. А мядзведзь замест малаціць па касцях і рэбрах, стаў мармытаць, паказваць лапай, каб гуцул схапіў за дрэва. Той урэшце скеміў — звер хоча яму дапамагчы!

Чалавек моцна ўчапіўся за канец елкі і мядздзедзь выцягнуў яго з ямы.

Пасля гэтага яны разышліся кожны ў свой бок, быццам бы і не бачылі сябе.

Пра што яны думалі — адзін лес ведае. Аднак з той пары чалавек перастаў дрэнна думаць пра мядзведзя і ў знак пашаны заўсёды сыходзіў яму з дарогі.

**(пераклад з украінскай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)**

** Мядзведжая паслуга — на польскай мове зварот «мядзведжая паслуга» мае іншае, адмоўнае значэнне, гэта такая дапамога, якая хутчэй за ўсё не дапаможа, а яшчэ больш пашкодзіць.*

*** Смерэка — елка, якая расце ў Карпатах.*

Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ

**Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ**
Гімназія
свсв. Кірылы і Мяфодзія
ў Беластоку

## Маміна рука

Маміна рука
першая даткнулася да мяне
Маміна рука трымала мяне
калі я пачынала хадзіць
Маміна рука карміла мяне
Маміна рука туліла мяне
Маміна рука дапамагала мне
Маміна рука — кахала мяне
Маміна рука — будзе
апекавацца сваімі ўнукамі
Тады гэта будзе
бабуліна рука
Маміна рука — будзе
трымаць мяне апошні раз

### Замкі і палацы Беларусі

# ПАЛАЦ ЗАКАХАНЫХ У ПАЛЕСКІМ КОСАВЕ

Гэты палац беларусы ўспрымаюць як сімвал шчырага кахання. Калі ў наваколлі адбываецца вяселле, маладая пара, пасля вянца, абавязкова адпраўляецца да палаца. Маладыя абыходзяць кругом агромністы палац і ўскладаюць да яго кветкі. Вераць, што гэты жэст дапаможа захаваць праз усё жыццё любоў у сям’і.

Мова пра палац Пуслоўскіх у палескім Косаве. Тыдзень раней, калі мы пісалі пра сядзібу Тадэвуша Касцюшкі ў Мерачоўшчыне, на гравюры Напалеона Орды палац апынуўся ў фоне сядзібы народнага героя. Невыпадкова, палац Пуслоўскіх быў збудаваны ў 1830-я гады, літаральна сотні метраў ад сядзібы Касцюшкаў. У такі спосаб гаспадары палаца хацелі выказаць павагу да подзвігаў Касцюшкі ды ўшанаваць яго памяць. Будынак запраектаваны на прыём знакамітых людзей са свету. У ім было больш за сто пакояў і ўсе яны былі розныя. Напрыклад, у Белай зале адбываліся баляванні, а ў Чорнай гулялі ў карты. Аднак самай незвычайнай залай лічылі памяшканне з празрыстай падлогай, пад якой быў агромністы акварыум з экзатычнай рыбай і раслінамі.

Палац Пуслоўскіх быў падпалены партызанамі ў 1943 годзе, нібыта за тое, што ў ім размяшчаўся нямецкі шпіталь. Будынак, як сведчаць відавочцы, гарэў ажно 10 дзён.

Але нягледзячы на гэта, ён ацалеў. Тады, каб закончыць рытуал знішчэння, улады прапанавалі сялянам разабраць будынак на цэглу. Але справа не пайшла так проста, як думалі. Салідная канструкцыя і выкананне не паддаліся мужыцкай сякеры і лому. Не спрацавалі бульдозеры і дынаміт. Палац, хоць траўлены агнём і сякерай, ператрываў па наш дзень. Будынак ніколі не згубіў сваёй паэтычнай аўры. Нават у часы савецкай Беларусі тут спатыкаліся закаханыя пары і маладажоны.

Сёння ідзе інтэнсіўная адбудова палаца. Рэстаўратары і мастакі ставяць сабе за мэту вярнуць прыгожасць і веліч гістарычнага помніка, які сваёй дастойнай формай і аўрай любві быў данінай памяці славутаму Тадэвушу Касцюшку.

**(гак)**

## Вершы Віктара Шведа

### Падвяла

Ната да хлопца звоніць:
— Прыдзі да мяне заўтра Лёня.
Стрэну цябе дарагога,
Не будзе дома нікога.

Лёня ў наступны вечар,
Хутка пабег на сустрэчу.
Мела рацыю Ната,
Пад замком была хата.

### Рада

— Мама, сцвердзіў мой адзіны,
Што я цудоўная дзяўчына.
Толькі ў ім бачу прыгажосці,
Можа запросім яго ў госці?

— Мая ты дарагая доня,
Табе такая рада сёння:
Мы запрашаць яго не будзем,
Далей хай аб табе так судзіць.

## Польска-беларуская крыжаванка № 8-17

Запоўніце клеткі беларускімі славамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 4-17:**

Мат, сарока, круг, одум, каша, рост, торт, ара, таракан, картка. Рукавіца, сук, маг, рот, ар, корак, то, астра, кошт, ар, рада, акт, так, смятана.

Узнагароды, аўтаручкі (cienkopisy), выйгралі **Аліўка Порац, Мая Тапалянская** з Нарвы, **Зузанна Мішчук, Якуб Аўярчук** з Арэшкава, **Магда Люнда, Матвей Зыскоўскі** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Міхал Полікатус, Іаанна Адамюк** з Новага Корніна. Віншуем!

Odwilż
Om
Skała
Ławka szkolna
Sepia
Las
Praca
Jar
Dym
Pałac
Żaba
Palec
Dom
Rosada
Ob
Program

I яны стваралі „Ніву”

# Сяргей КІШЫЦКІ

**Другой асобай, якой прыйшлося мне крыху пашукаць, быў Сяргей Кішыцкі, вядомы як мастак, які афармляў „Ніву” праз нядоўгі час на пераломе 1950/1960-х гг. Георгій Валкавыцкі зашыфраваў яго пад ініцыяламі С. К. (Віры, Беласток 1991, с. 57). Пакуль С. Кішыцкі пачаў працаваць у „Ніве”, графічна афармляла яе Люба Красоўская. Вучылася яна ў Балгарыі, там выйшла замуж і ў 1959 г. туды з’ехала. Ёй на падмену прыйшоў С. Кішыцкі. Г. Валкавыцкі ў „Вірах” запісаў: „З адыходам Любы Красоўскай удала кроіў графічны касцюм «Нівы». Яго дакументы не захаваліся аднак у архіве „Нівы”, таму здабыць нейкія звесткі пра яго не было так проста. У артыкуле Іаанны Тамальскай пра беларускіх мастакоў у кнізе „Białorusini” (Варшава 2010) пра Сяргея Кішыцкага напісана: „najpewniej białostocki plastyk, o którym niewiele dziś wiemy”.**

У інтэрнэтных рэсурсах можна знайсці, што чалавек з такім імем і прозвішчам быў кіраўніком мастацкай майстэрні пры Музычным тэатры ў Гдыні. Яго прозвішча можна знайсці ў тэатральных праграмах з 1970-1980-х гадоў. Усё гэта нейк здзіўляла: няўжо гэта тая самая асоба. Даўнія супрацоўнікі „Нівы” Вера Валкавыцкая і Яніна Чарнякевіч успаміналі маладога хлопца, які насіўся (апранаўся) па-мастацку. Разам з Янінай Чарнякевіч сядзеў у рэдакцыйным пакоі і афармляў з ёю „Зорку”. З успамінаў Г. Валкавыцкага і з «Нівы» вядома, што ў кастрычніку (з 4 па 22) 1959 г. у Клубе міжнароднай кнігі і друку ў Беластоку адбылася мастацкая выстаўка. Плакат да яе стварыў Сяргей Кішыцкі. Паказана на ёй было 20 прац маладых беларускіх мастакоў: Уладзіміра Карпенюка, Аркадзя Ніканові́ча, Аглаі Артысевіч, Генадзя Бібілы, Аляксандра Сушчэні, Яна Анісэровіча, Міколы Несцяровіча. На закрыцці выстаўкі мастакі вырашылі стварыць Беларускае мастацкае аб’яднанне. „5 снежня задума ажыццявілася. БМА ўзначаліў ініцыятыўны С. К. (...) Устаноўчы сход прыняў багаты план дзеяння на 1960 год. Абяцаў ён высокае прызнанне ў нарадзе, ды ў адну цяжарную мастацкімураджаем вясновую раніцу старшыню аб’яднання пасялілі ў казённым доме — і БМА канула ў Лету”, — пісаў Г. Валкавыцкі. І разам з БМА знік Сяргей Кішыцкі.

Па слядах праграмак пазваніла я ў Музычны тэатр у Гдыні. Там даведалася, што С. Кішыцкі не працуе з 1994 г., калі 28 лютага выйшаў на пенсію. Супрацоўнік тэатра, які мяне інфармаваў пра С. Кішыцкага знаў яго, але не ведаў, дзе ён жыве. Даведалася я таксама, што мастак нарадзіўся 17 жніўня 1931 г. у Валілах-Станцыі. Падумала, што гэта добры след, але мае сябры Алесь Карпюк і Дарота Сульжык нічога пра яго на бацькаўшчыне не даведаліся. „Былі тут Кішыцкія, але зараз ужо няма”, — казалі.

Трэба было мінулым летам сустрэцца з Галінай Матэйчук у яе хаце ў Гарадку, перагарнуць яе кнігу ўспамінаў і распытаць пра асобы на школьным здымку. Адным з сяброў Г. Матэйчук аказаўся С. Кішыцкі. Г. Матэйчук вельмі хутка знайшла кантакт да сястры мастака, а праз яе да С. Кішыцкага. На Спаса я з яблыкамі завітала ў Гдыню да мастака, віншуючы яго з юбілеем.

С. Кішыцкі расказаў пра сваю няпростую дарогу жыцця, якая завяла яго з Валілаў у Гдыню. У 1938 г. пачаў хадзіць у польскую школу ў Гарадку. Вельмі любіў рысаваць з дзіцячых гадоў — у школе рысаваў па партах. Прадаўжаў навуку пасля вайны ў 1944 г. у беларускай школе. З ім у класе былі Раіса Сянкевіч, Іосіф Суліма, Галіна Лук’янюк, Вера Карвель, Таня Яроцкая, Галіна Мялешка, Барыс Гедзіч.

У 1954 г. паступіў у Мастацкі ліцэй у Беластоку. У той час у Гарадку новазбудаваную царкву размалёўвалі вядомыя мастакі з Кракава — Ежы Навасельскі і Адам Сталёны-Дабжаньскі. Тадышні бацюшка Уладзімір Дарашкевіч, а будучы мітрапаліт Васіль, папрасіў іх каб заняліся асірацелым таленавітым хлапчуком. У 1947 г. памерла яго маці, а бацька ажаніўся другі раз. Мачыха не была добрай для С. Кішыцкага. Кракаўскія мастакі вырашылі таленавітага хлопца забраць з сабой. У Кракаве вучыўся ў мастацкім ліцэі — быў у адным класе з Раманам Палянскім. Жыў або ў Е. Навасельскага, або ў А. Сталёны-Дабжаньскага. Стаў членам іх сем’яў. Яны былі яго добрымі дзядзькамі — так іх называў. Аднак было яму няёмка, што жыве ў такіх мэтраў дарам. Пасля ліцэя закончыў яшчэ двухгадовае студыюм сцэнаграфіі.

У 1959 г. С. Кішыцкі прыехаў у Беласток і з 1 кастрычніка пачаў працу ў „Ніве”. Машыністкай працавала тады Крыся Багдановіч з Валілаў і яна намовіла С. Кішыцкага на працу ў „Ніве”. Працаваў да мая 1962 г. Пасля адыходу з „Нівы” працаваў у Падляшскім музеі, а пазней у мясной прамысловасці.

У 1964 г. прыехаў у Гдыню ў пошуках працы. Было цяжка прапісацца. За грошы прапісала яго да сябе нейкая кашубка. Працаваў у гдыньскім порце. З 1969 г. атрымаў працу ў Музычным тэатры — стаў кіраўніком мастацкай майстэрні. Праектаваў і выконваў сцэнічнае афармленне для шматлікіх спектакляў, таксама для Балтыцкай оперы і Гарадскога тэатра ў Гдыні. Жыў у памяшканні пры тэатры. У 1984 г. дырэктар Музычнага тэатра Ежы Груза дамогся кватэр для сваіх акцёраў і супрацоўнікаў у блоку на Карвінах. 4 студзеня 1989 г. С. Кішыцкі атрымаў Сярэбраны крыж заслугі за сцэнаграфічныя працы.



Сяргей Кішыцкі на фоне мастацкай выстаўкі беларускіх дзяцей у Польшчы, Беласток, КМРіК, 1959 г.

Пасля доўгіх гадоў, якія прайшлі ад працы ў «Ніве», добрымі словамі ўспамінае яе супрацоўнікаў: Георгія Валкавыцкага, Міхася Хмялеўскага, Мацея Канапацкага, Веру Валкавыцкую і Яніну Чарнякевіч — усе тады былі маладымі і нешта хацелася рабіць. Але часы былі не надта цікавыя, БГКТ не было сапраўднай беларускай арганізацыяй, а і ў «Ніве» былі асобы не надта добразычлівыя, якія рабілі яму розныя прыкрасці, як Васіль Баршчэўскі ці Сакрат Яновіч.

Сяргей Кішыцкі, пражыўшы больш чым 50 гадоў у Гдыні, не здрадзіў сваёй Бацькаўшчыне, тужыць па ёй і думае пра пераезд у Беласток да сястры; не забыў свае роднай мовы, а, будучы маладзейшым, наведваў гданьскую праваслаўную царкву. Апошнім часам, згаварыўшыся пра падзеі 1946 г. на Беласточчыне, расказаў пра лёс бацькавых брата і сясцёр з Гуркі пад Крынкамі, якіх акаўцы прывязалі нанач да дрэў, а наступнага дня пасадзілі ў Саколы на цягнік і адправілі ў савецкі рай. І так добра скончылася — тыя апынуліся ў Магілёве.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*


Сяргей Кішыцкі з супрацоўнікамі мастацкай майстэні Музычнага тэатра ў Гдыні — канец 1970-х гадоў


Сяргей Кішыцкі рыхтуе сцэнаграфію да мюзікла «Kolęda Nocka» 1980 г., Музычны тэатр у Гдыні

**У казках, так народных, як і аўтарскіх, здараюцца мезальянсныя сюжэты. Вось, у беларускіх народных казках бывае так, што найбяднейшы мужыцкі сын у выніку незвычайных абставін становіцца каралеўскім зяцем, а гэта значыць, што ў будучыні чакае яго каралеўская карона. Або бедненькую сіротную папялушку лёс узводзіць у званне будучай каралевы. Гэтак у казкахмарах. Але ж бывае, што казкі становяцца быллю, калі асоба з ніжэйшых грамадскіх слаёў выходзіць у найвышэйшыя грамадскія вярхі.**



# Горад з каралеўскім летапісам

Тут мог быць замкавы дзядзінец

Найслаўнейшым сужонствам у Візантыйскай імперыі былі кесар Юстыніян і ягоная жонка Феадора. Апошняя выводзілася з грамадскіх нізоў, і, як сцвярджаюць некаторыя гістарычныя даведкі, мела за сабою надта нізавыя паводзіны, калі іх арыенцірам не былі патрабаванні духа, але патрабаванні цела. Вікіпедыя: „Начальный этап жизни будущей императрицы и святой не подтверждается и не опровергается текстом житий Феодоры, в которых кратко указывается — была сначала грешницей, но потом раскаялась". Правілі яны Візантыяй у першай палове VI стагоддзя...

Прамінула тысячагоддзе і ў месцы Візантыі з'явілася новая імперыя, турэцкая. Яе сталіца, якая даўней называлася Канстанцінопалем, прыняла назву Стамбул, а правіцель стаў называцца султанам. У першай палове XVI стагоддзя правіў там Сулейман I Пышны, а ягонай галоўнай жонкай стала Раксалана, верагодна дачка праваслаўнага святара з усходу Галіччыны Анастасія Лісоўская, якая трапіла ў турэцкі палон і па лабірынтах лёсу ў султанскі гарэм. І там, паводзячы сябе быццам зязюльчаня, заняла галоўнае месца; гэта Гюрэм з хвалюючага нядаўна шматлікіх нашых гледачоў тэлесерыяла „Wspaniałe stulecie"...

Вядомая ўжо нам Раксалана вяла перапіску з найбольш „падляшскім" каралём Рэчы Паспалітай — Жыгімонтам Аўгустам. Жыгімонт жа Аўгуст угнявіў сваіх сучаснікаў шлюбам з Барбарай Радзівіл, асабліва ж сваю маці — каралеву Бону. Бо ж не аджаніўся ён з каралеўскім пасагам з прыдаткам жанчыны, толькі з жанчынай, хаця са знатнага, але не каралеўскага роду, якая яму папросту спадабалася. Мабыць таму, што была са сціплейшага, крыху менш ганарыстага роду... І яе, так як і згаданую раней Феадору, зайздроснікі „аздобілі" ўсялякімі негатывамі... Станіслаў Ажахоўскі, які жыў у той жа што і яна час, так пісаў пра яе: „**Któż nie zna tej kobiety, urodzonej haniebnie, wychowywanej jeszcze haniebniej, wprawnej we wszelkiego rodzaju rozpuście i trucicielstwie. (...) Wałęsają się tu i ówdzie liczni ludzie, którzy się tarzali lubieżnie z tą Taidą. Senator, szlachcic, bogaty, biedny, znany, nieznany, nawet braciszek zakonny, mieszczanin, wieśniak, masztalerz, każdy, kogo uważano za wprawnego w uprawianiu łajdactw, u niej uprawiał rozpustę, nawet wbrew swej woli.**" [Вікіпедыя: **Taida, Prepodobnaja Taisja — żyjąca w IV wieku egipska penitentka i pustelnica, święta Kościoła katolickiego, prawosławnego oraz ormiańskiego. Św. Taida jest patronką skruszonych prostytutek.**] І, магчыма, тая атрутная атмасфера і спрычынілася да заўчаснай смерці каралевы Барбары пасля пяці месяцаў пасля ейнай каранацыі...

Кароль Жыгімонт Аўгуст упадабаў сабе не толькі сціплейшую жонку, але і сціплейшае месца пражывання. Магчыма, што і яму дакучалі ўсялякія аматары ўладарыць ягоным лёсам. Хаця вырас ён у сталічнай



Помнік Жыгімонту Аўгусту ў гарадскім парку

Вільні, аднак з гадамі стаў цаніць больш спакойнае месца. Гэтым месцам аказаўся Кнышын, ціхая мясцовасць на шляху між сталічнымі Вільняй і Кракавам. Тут не было пышных харомаў, быў затое паляўнічы палац, з якога кароль любіў адпраўляцца на прыроду, на паляванні.

З чаго пайшла назва Кнышын? „**Słownik gwar polskich**" Яна Карловіча падае такое тлумачэнне слова *кныш*: „**rodzaj bułki z tłustością i z cebulą pieczony, którą znoszą na ofiarę do cerkwi**". І далей пра кныш: „**popowicz, syn popa, wzgardliwie nazywa się knyszem albo chapoknyszem**". І здаецца, што гэтае апошняе тлумачэнне заводзіць у вытокі назвы мясцовасці: тут быў участак нейкага паповіча. Сёння можа гэта здацца дзіўным, але калісь-калісь у Кнышыне была царква, да таго ж, як мяркуюць гісторыкі, не адна, так як былі цэрквы ў недалёкіх ад Кнышына Тыкоціне ці Багушэве. З кнышынскай царквой звязана адна легенда, якая і тлумачыць, куды тая царква падзелася...

Царква стаяла на кнышынскім рынку, а вакол яе раслі высокія дрэвы, да якіх людзі прывязвалі коней, калі прыязджалі на базар або ў царкву. Аднойчы, у прыцемкі, прыехаў у Кнышын нейкі гаспадар і прывязваў каня каля царквы. Калі гэта рабіў, пачуў голас, які загадаў яму ніколі больш не прывязваць каня да дрэва. Мужык пералякаўся і пасля ўсім расказваў, што кнышынскую царкву апанавалі чэрці і забараняюць прывязваць каля яе запрэжкі. З таго часу людзі перасталі не толькі прывязваць каля царквы коней, але паступова перасталі наведваць царкву...

Магчыма, што ў гэтай легендзе ёсць нейкая доля праўды. Аднак заняпад царкоўнага жыцця ў Кнышыне прынесла бежанства. Калі да яго ў Кнышынскім прыходзе было — у канцы XIX стагоддзя — чатыры дзясяткі вернікаў, то пасля і зусім не стала. Апошняя кнышынская царква, пабудаваная ў 1850-х гадах, была знесена ў 1920-х гадах і матэрыял з яе меў быць выкарыстаны для пабудовы царкоўкі на могілках у Васількаве, аднак нейкім чынам той матэрыял расцерушыўся.

Пра адну канфесійную кнышынскую падзею згадвае партал sztetl.pl: „**W roku 1904 zdarzył się w Knyszynie wypadek przejścia na prawosławie pewnej Żydówki z Grajewa. Obrzęd ten dokonany został w knyszyńskiej cerkwi prawosławnej. Oburzona ludność żydowska otoczyła cerkiew, chcieli ją porwać. (...) Tłum został rozproszony przez rosyjską policję, która do rozganiania tłumów użyła sikawek strażackich...**".

Даведнік „Вялікае Княства Літоўскае" пра Кнышын: „Заснаваны ў пачатку XVI стагоддзя, як сяло ў Бельскім старастве канцлерам ВКЛ, старастам бельскім Мікалаем Радзівілам, які пабудаваў тут паляўнічы двор, у 1520 фундаваў касцёл. (...) З-за багатых паляўнічых угоддзяў Кнышын стаў улюбёнай рэзідэнцыяй Жыгімонта Аўгуста, які пабудаваў тут драўляны палац, заклаў вялікі парк і звярынец. 18.10.1568 даў Кнышыну магдэбургскае правы. (...) У 1571 Жыгімонт Аўгуст заснаваў у Кнышыне Праабражэнскую царкву (пасля ўніяцкая). У 1579 Замойскі фундаваў мураваны касцёл (асвячоны ў 1601) і шпіталь. У 1655-56 Кнышын разбураны шведамі і прыйшоў у занепад".

Каралеўскі палац у Кнышыне знаходзіўся між гарадскім рынкам і рэчкай Яскранкай, па цяперашняй Беластоцкай вуліцы, якая з рынку выходзіць у паўднёвым напрамку. Ад яго не засталіся ніякія рэшткі. Ёсць слаба зазначаны ўзгорак, побач якога школьны будынак. На верагодным месцы Жыгімонтавага замка зараз аб'ёмісты драўляны будынак характэрны для яўрэйскага драўлянага будаўніцтва на нашых землях...

„Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага": „**Knyszyn, miasto w pow. białostockim nad rzeką Jaskrzanką, o 1011 wiorst od Petersburga, o 99 od Grodna, o 25 w. od Białego Stoku odległe; 2790 mieszkańców. W liczbie ludności 40 prawosł., 857 katol., 83 ewang., 1797 izr., 13 mahom. Kościół katolicki św. Jana Ewangelisty z muru w 1520 r. wzniesiony przez ks. Mikołaja Radziwiłła, który ...miasto to darował królowi Zygmuntowi I. Syn jego Zygmunt August, jako królewicz z upodobaniem tu przebywał, mając wyborne knieje, bawiąc się łowami na żubry i inną grubą zwierzynę; jako miłośnik wielki koni, utrzymywał w Knyszynie stadninę do 3000 sztuk wynoszącą. Przebywała w nim i Barbara, najukochańsza z jego małżonek, po której zgonie wszystkie pokoje kirem wybite były, na znak wielkiej żałoby owdowiałego króla... Ostatnie chwile życia spędził ten król w Knyszynie, otoczony czarownicami i nałożnicami, z których najwięcej podobał sobie w pięknej Giżance, co mu przypominała zmarłą Barbarę. Mniszech przy jej pomocy, wraz z pomocnikami swymi, okradł skarbiec królewski i tak opustoszył, że martwe zwłoki króla, zmarłego w 52 roku życia, d.7 lipca 1572 r., nie było w co przybrać**".

Гэта не адзіны пасляснмяротны клопат апошняга Ягайлавіча. Кароль Жыгімонт Аўгуст пажадаў, каб ягонае сэрца было пахавана менавіта ў Кнышыне. Так і сталася: цела было адпраўлена ў Кракаў, а сэрца ў спецыяльным саркафагу засталося ў касцёле. У час перабудовы касцёла саркафаг быў вынесены на гарадскі рынак, а пасля 1830 год быў перанесены ў іншае месца, з часам забытае і цяпер невядомае...

За зрабаваныя ў Кнышыне каралеўскія каштоўнасці сям'я Мнішкаў разбудавала палац у Радзыні-Падляшскім. Магчыма таксама, што частка гэтых каштоўнасцей паслужыла для фінансавання паходаў на маскоўскі трон іхняй сямейніцы Марыны, жонкі Лжэдзімітрыя...

У лік былых кнышынскіх скарбаў трэба прылічыць і славутыя, заказаныя ў Фландрыі шпалеры (arrasy). Наогул згадваецца ў нас толькі пра тыя шпалеры, якія апынуліся на Вавелі ў Кракаве, бо частка з іх захавалася. Паколькі, аднак, кароль заказаў іх усяго аж тры з паловай соткі, а ў Кракаў трапіла менш трохсот, дык трэба меркаваць, што тыя іншыя маглі трапіць і ў Кнышын. Іх лёс, так як і іншых кнышынскіх скарбаў, пасля нашэсця Мнішкаў — невядомы...

Кнышын у час свайго зорнага часу быў даволі буйным горадам. У пачатку XVII стагоддзя дзейнічала там звыш шасцідзесяці корчмаў, а паўстагоддзем раней, калі туды завітвала каралеўская світа магутнасцю каля трохсот асоб, магло іх быць яшчэ больш. Буйным горадам быў Кнышын чатырыста пяцьдзясят гадоў таму і ледзь не стаў сталіцай адной з самых магутных тагачасных дзяржаў. А зараз гэта толькі гмінны цэнтр...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞працяг

# Найлепшыя пеюны Падляшша

Яўгенія Самоцюк з Беластока, слухачка:

— З вялікай радасцю чакаю такія агляды роднай песні. Нельга прапусціць такое свята беларускай душы. Тым больш прыемна ўбачыць маладых спевакоў. І танцораў, як гэтыя маленькія дзеткі з «Падляшскага вянка», што выступілі на сцэне паміж блокамі песень конкурсу, які працягваўся пяць гадзін.

— Спяваем мы не зусім «новую» песню, — прызнаюцца настаўніцы са «Світанка» (лаўрэаткі Гран-пры фестывалю сярод вакальных калектываў). — «Сэрца маці». Яе раней спявалі «Сваякі». Мы яе пазычылі, але апрацавалі па-свойму. Як гурт выступаем дзясяты раз, хаця паасобныя спявачкі выступалі раней на фестывалі ўжо дзясяткі год. Данута Тымашэвіч выступала калісьці ў «Маланцы», а яшчэ раней у ліцэйскім калектыве які выступаў побач «Дзявочых нотак», з больш народным рэпертуарам — калі падлічыць, будзе трыццаць гадоў з беларускай песняй! А цяпер на аглядах выступаюць іхня вучні.

Трэці раз на фестывалі выступіў калектыў настаўнікаў „Ad Rem" з Дубровы-Беластоцкай пад кіраўніцтвам Яраслава Вазьнеўскага. Вельмі спадабалася ім песня пераможцы Еўрабачання Рыбака «Небахіл Еўропы». На дуброўскіх элімінацыях было толькі чатыры калектывы. Тут настаўніцы з усёй Дуброўшчыны, інструктар з Беластока прыязджае ў дом культуры ў Дуброве.


Марыя Врублеўская з Гарадка

— Сустрэнемся праз год, працуем яшчэ, можа тады і трапім на гала-канцэрт!

— Мы — Ольга Пагрэбняк, Ірэна Драўноўская, Міхал Пул'яновіч, Гэнрык Дубоўскі, Галена Радзюшэўская, і наш музыка — Генрык Мулэнка. Мы песні розныя спяваем. На беларускай песні на цэнтральным аглядзе мы трэці раз — мы, «Крыніца» з Радзівілаўкі. І па суседскіх вёсках ездзім, і на аглядах усяляків выступаем. І духоўныя песні пяем, і праваслаўныя, і каталіцкія на «Цэцыліядзе». І жыццёвыя, пра жыццё колішняе, пра каханне, тугу...

Спадар Генрык Мулэнка апякуецца трыма ансамблямі на тэрыторыі ўсяе Мельніцкай гміны. А яшчэ і чацвёртым — пажарніцкім «Жарам» (сам ён таксама ў пажарніцкай форме, пад вусам), з Сарнак, які не першы раз, з гожымі пажарнічкамі, «жарыць» дынамічныя песні на беларускім фестывалі...

У Падляшскай оперы і філармоніі ацэньвала ўдзельнікаў журы з пяці чалавек пад старшынствам прафесара Міхала Дрынеўскага (мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча), з намеснікам старшыні Беларускага фонду культуры ў Мінску, культуразнаўцам Тадэвушам Стружэцкім ды музыкамі Іаанай Аўгустынчук, Аннай Васькоўскай ды Мартай Врублеўскай. Артысты змагаліся ў трох катэгорыях: аўтэнтычная народная песня, апрацаваная народная песня і сучасная песня. На сцэне паявілася таксама некалькі каманд, якія ўпершыню ўдзельнічалі ў фестывалі. На сцэне выступаючых суправаджалі банеры з лагатыпамі спонсараў — Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве і герб горада Беластока — Арол з Пагоняй.

Тадэвуш Стружэцкі: — Галоўным крытэрыем для ацэнкі журы з'яўляецца культура выканання, сцэнічная культура. Мы ўлічваем таксама касцюмы, музычнае апрацаванне і абавязкова як артысты адчуваюць тое, што перадаюць аўдыторыі. Падзел на катэгорыі і падкатэгорыі вельмі справядлівы і кожнаму з выканаўцаў стварае роўныя магчымасці.

Лаўрэатаў першых месцаў сёлетняга Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня -2017» пачуем у пятніцу, 17 лютага, падчас урачыстага гала-канцэрта, які традыцыйна адбудзецца ў Падляшскай оперы і філармоніі па вуліцы Адэскай, 1.

Міра ЛУКША




Той, хто крыху ведае беларускую гісторыю, можа распавесці, што калісьці, як казалі пры камуністах, на зары савецкай улады, існавала ў Беларусі першая навукова-даследчая ўстанова — Інстытут беларускай культуры, скарочана — Інбелкульт. Існавала тая ўстанова з 1922 па 1928 гады і была рэарганізавана ў Беларускую акадэмію навук, якая пасля шэрагу перайменаванняў цяпер мае назву Нацыянальная акадэмія навук Беларусі.

Здавалася, што ўласна назва „Інбелкульт" назаўжды засталася ў мінулым, як сімвал першай беларускай установы, што ўзнікла, дзякуючы нацыянальнай палітыцы бальшавікоў. Аднак сучасныя лукашэнкаўскія чыноўнікі, па ўсім відаць, настолькі нецікаўныя і непрыхільныя да беларускай гісторыі, што не саромячыся могуць узяць старую назву-сімвал і прыляпіць яе да нейкага навайтварэння. Менавіта гэта адбылося з „Інбелкультам". З 2010 года гэтую назву, прычым без асаблівых на тое падстаў, носіць Інстытут культуры Беларусі. Без падстаў — бо калі скарачаць словы паводле іх чаргі, то мусіла б атрымацца „Інкультбел", але ніяк не „Інбелкульт".

Сайт сучаснага Інбелкульта месціцца па адрасе ў інтэрнэце **http://inbelkult.by**. Выглядае ён хоць і сціпленька, але даволі прывабна. На ім лёгкая і зразумелая навігацыя, няма мультымедыйных аздабленняў, але прысутнічаюць фотаздымкі. На сайце дзве моўныя версіі — англійская і беларуская. У апошняй, праўда, прысутнічаюць і рускамоўныя тэксты. Стваральнікі сайта чамусьці галоўнай мовай абралі англійскую, бо менавіта на яе выводзіць набраны на камп'ютары адрас.

Сайт утрымлівае невялікую колькасць рубрык, але практычна кожная з іх змяшчае некалькі падрубрык. Гэта дазваляе праглядаць вялікую колькасць сістэматызаванай інфармацыі, якая датычыцца інстытута і яго дзейнасці.

Зважаючы на тое, што назва „Інбелкульт" напрамую звязаная з беларускай навукай, узнікае жаданне паглядзець, ці адлюстравана гэта на сайце той установы, што цяпер так называецца. Але зазірнуўшы ў падрубрыку „Пра інстытут", што месціцца ў рубрыцы „Галоўная", ніякай інфармацыі аб колішнім Інбелкульце там не знаходзіш. „Інбелкульт з'яўляецца правапераемнікам установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры» (БелДІПК), які пачаў сваю дзейнасць у 1991 годзе", — пішуць цяперашнія знаўцы культуры, ані словам не ўзгадваючы, з якой прычыны яны па-валюнтарысцку прысвоілі сабе колішнюю назву цяперашняй Акадэміі навук.

Згодна статуту інстытута, прадметам яго дзейнасці з'яўляецца павышэнне кваліфікацыі і падрыхтоўка кіруючых работнікаў і спецыялістаў у сферы культуры, забеспячэння сістэмнага, планамернага і эфектыўнага развіцця сферы культуры краіны на сярэднетэрміновую і доўгатэрміновую перспектывы.

Статут інстытута вызначае і такую цікавую, але не дзіўную для Беларусі рэч, як прызначэнне рэктара. Калі звычайна на дадзеную пасаду рэктары абіраюцца, то ў цяперашнім Інбелкульце працэдура заняцця гэтай пасады зусім іншая. „Кіраванне ўсёй дзейнасцю інстытута ажыццяўляе рэктар, які прызначаецца на пасаду міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь", — гаворыцца ў 35 пункце статута гэтай установы адукацыі.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



### Адзін з заснавальнікаў БХД

# 130 гадоў з дня нараджэння Яна Пазьняка

Нарадзіўся Ян Пазьняк 19 лютага 1887 г. (паводле іншых звестак у 1895 ці 1897 годзе) у мястэчку Суботнікі Лідскага павета (цяпер Іўеўскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і беларусаў-каталікоў: бацькі — Аляксандр і Ганна (з роду Тучкоўскіх) Пазьнякі. Дзед беларускага грамадска-палітычнага дзеяча Зянона Пазьняка.

Атрымаў агульную сярэднюю і музычную адукацыю. Рана далучыўся да беларускага руху. У 1909-1912 гг. браў удзел у працы беларускіх хрысціянска-асветніцкіх гурткоў. У 1913-1915 гг. разам з Адамам Бычкоўскім, Баляславам Пачопкам і Антонам Лявіцкім (Ядвігіным Ш.) выдаваў віленскую газету „**Biełarus**". Служыў арганістам у Лаварышках каля Вільні, пазней у касцёле св. Яна ў Вільні (1918-1920 гг.).

З 1917 г. актыўна ўдзельнічаў у беларускім хрысціянска-дэмакратычным руху. З 1928 г. быў сакратаром Прэзідыума ЦК Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, з 1936 г. — старшынёй Прэзідыума Беларускага народнага аб'яднання. Арганізоўваў на вёсцы беларускія мастацкія калектывы, рупіўся пра адкрыццё беларускіх школ. У 1928-1936 гг. рэдагаваў газету „**Biełaruskaja krynica**". З пачатку 1930-х гг. — старшыня віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта. Арганізатар беларускіх сялянскіх мастацкіх калектываў і стваральнік беларускіх вясковых школ. За рэдактарска-публіцыстычную і палітычную дзейнасць пераследаваўся польскімі ўладамі Віленшчыны. На Яна Пазьняка было заведзена больш за 30 судовых спраў. Некалькі месяцаў правёў у вязніцы, штрафаваўся. Напрыканцы 1938 г. у сувязі з закрыццём газеты „**Biełaruskaja krynica**", рэдактар часопіса „Хрысціянская думка". Дапамагаў выдаваць грамадскі часопіс „Самапомач".

Ян Пазьняк выступаў у друку з артыкуламі, у якіх каментаваў бягучыя палітычныя падзеі, аналізаваў грамадскую, рэлігійную і культурную сітуацыю беларускай меншасці ў Польшчы, акрэсліваў кірункі яе дзеянняў для абароны сваіх правоў, растлумачваў ідэалагічныя асновы хрысціянскага дэмакратызму. Сярод напісаных ім прац ёсць „Самаўрад вясковых гмін", выдадзены ў Вільні ў 1929 годзе. Быў жанаты, з жонкай Марыяй Пазьняк меў шмат дзяцей. У Вільні Янка Пазьняк жыў у старым доме Скарынавага фундатара бургамістра Якуба Бабіча. Менавіта ў гэтым доме жандары арыштавалі Кастуся Каліноўскага, а пазней там месцілася друкарня Марціна Кухты, жыў у ім таксама Янка Купала.

Пасля пачатку Другой сусветнай вайны, у кастрычніку 1939 г. Ян Пазьняк разам з Антонам Луцкевічам, Макарам Краўцовым і іншымі беларускімі дзеячамі быў арыштаваны савецкімі акупацыйнымі войскамі і вывезены з Вільні. 22 красавіка 1940 г. быў перавезены 226-ым палком 15-й брыгады войскаў НКВД з Чэрвеня ў Менск. Далейшы лёс дакладна невядомы. Аднак даследаваннем Польска-расейскага цэнтра дыялогу і згоды праз параўнанне спісаў польскіх грамадзян, зніклых на тэрыторыях, занятых СССР у 1939 годзе, з канвойнымі спісамі войскаў НКВД выяўлена, што Ян Пазьняк, верагодна, быў забіты НКВД паводле рашэння Палітбюро ВКП (б) ад 5 сакавіка 1940 г. Гэта азначае, што Ян Пазьняк мог быць расстраляны ў Катыні ці іншым месцы масавага расстрэлу грамадзян тагачаснай Польшчы і знаходзіцца ў так званым „Беларускім катынскім спісе". Месцам яго смерці з вялікай верагоднасцю з'яўляецца Менск. Дакладнае месца гібелі і пахавання невядомыя.

У Беларусі Ян Пазьняк не ўшанаваны ніяк.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Турнір настольнага тэніса

Традыцыя папулярызацыі і распаўсюджвання настольнага тэніса ў Чаромсе доўжыцца з васьмідзясятых гадоў. Заўзятым аматарам гэтага віду спорту з'яўляецца Януш Ліпінскі — шасцідзесяцігадовы прадпрымальнік і заадно актыўны грамадскі дзеяч. Штогод удзельнічае ў спартыўных розыгрышах, арганізаваных у пасёлку. У футбольным турніры за кубак войта, напрыклад, выступае ў якасці варатара каманды, іншым разам нападаючага. У настольным тэнісе выступае ў ролі арганізатара мерапрыемства. Сёлетні турнір настольнага тэніса праходзіў 25 студзеня ў Гмінным асяродку культуры і меў святочную афарбоўку. Паколькі ў мінулых гадах за кубак войта сапернічалі мясцовыя тэнісісты, дык сёлета былі запрошаны спартсмены з Гайнаўшчыны, Бельшчыны, Сямятыч, Лосіц, а нават Седльцаў. У агульным ліку ў турніры ўдзельнічала больш за семдзесят спартсменаў. Турнір сваёй прысутнасцю ўдастоілі войт Міхал Врублеўскі, старшыня Рады гміны Сяргей Смык, дырэктар гімназіі Іаанна Гнатоўская, намеснік дырэктара Міраслаў Шатыловіч, дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк, ксёндз Кшыштаф Дамарачэнька, старшыня спартыўнага клуба «Калеяж» Міраслаў Самасюк ды шматлікае кола жыхароў Чаромхі. Афіцыйная частка пачалася ў 9:30 з выступлення войта Міхала Врублеўскага і прывітання гасцей. Прамоўца ў некалькіх словах спаслаўся на традыцыю арганізавання спартыўных гульняў, падзякаваў кіраўнікам паасобных установаў за падтрымку ў папулярызацыі гміннага спорту і пажадаў усім спартсменам заўзятага спаборніцтва і добрых вынікаў. Турнір праходзіў у васьмі ўзроставых катэгорыях: дзяўчаты і хлопцы пачатковай школы, гімназіі, сярэдніх школ, затым сеніёры і алдбоі. Да абеду змагаліся юныя тэнісісты. Варта адзначыць, што арганізатары, а былі імі Гмінная ўправа і прадпрымальнік Януш Ліпінскі, падбалі пра гарачыя напіткі, салодкасці, а таксама тушоную капусту з каўбаскай.

Пераможцы першага туру спаборніцтваў:

Пачатковая школа — дзяўчаты: Зіневіч Катажына, Кінга Корза, Наталля Млынарэк, Вікторыя Гаш; хлопцы: Якуб Ракоўскі, Марцін Сякерка, Барташ Чэкуць, Ігар Тычына;

Гімназія: Мальвіна Маркевіч, Паўліна Пачуска, Юліта Пэнчак; Кацпар Норва, Дамінік Корза, Адрыян Сякерка, Марцэлі Мадэрскі;

Сярэднія школы: Паўліна Тарапата, Вікторыя Саснюк, Аліна Саснюк, Ева Роса; Павел Лук'янюк, Эрык Тычыно, Матэвуш Ханеўскі, Патрык Жалоба.

Другі тур розыгрышаў пачаўся ў 16:30. Да сапернiцтва прыступілі сеніёры і алдбоі.

Перш-наперш былі аб'яўлены вынікі розыгрышаў школьнай моладзі, затым войт Міхал Врублеўскі ўручыў пераможцам сувеніры і памятныя статуэткі. Пасля такія ж прызы былі ўручаны заслужаным дзеячам гміннага спорту: дырэктару Гміннай гімназіі Іаанне Гнатоўскай, дырэктар ГАК Барбары Кузуб-Самасюк, дырэктару Чаромхаўскай насычальні Рышарду Сакалоўскаму, былому трэнеру футбольнай каманды «Калеяж» Славаміру Багроўскаму, старшыні футбольнай каманды «Калеяж» Міраславу Самасюку і прадпрымальніку Янушу Ліпінскаму. Дадаткова гэты апошні за шматгадовую грамадскую дзейнасць у карысць распаўсюджання фізкультуры атрымаў карціну аўтарства Сяргея Смыка — старшыні Рады гміны. Памятны сувенір атрымаў самы старэйшы тэнісіст 82-гадовы Эдуард Панецкі з Гайнаўкі.

Спаборніцтва сеніёраў і алдбояў доўжылася амаль да восьмай вечара. У выніку заўзятых змаганняў у катэгорыі сеніёраў перамаглі: Т. Грыцюк з Лосіцаў; Рафал Мачульскі, Тамаш Мачульскі і Данель Савіцкі з Сямятыч. У групе алдбояў перамаглі Яўген Тамашук з Седльцаў, Анджэй Мачульскі з Чаромхі, Ежы Мячынскі з Гайнаўкі і Януш Ліпінскі з Чаромхі.

Чаромхаўскае спартыўнае мерапрыемства адбылося дзякуючы фінансавай падтрымцы арганізатараў і шматлікіх спонсараў, сімпатыкаў і прамотараў актыўнага віду спорту. І за гэта належыцца ім ад мясцовай грамадскасці шчырае дзякуй !

**Уладзімір СІДАРУК**





## ЗАПРАШЭННЕ



Аб'яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-Бы

**Пагаворым пра ваўкоў, зуброў ды іншых караедаў**

**і сустрэчу з АДАМАМ ВАЙРАКАМ – журналістам, эколагам, жыхарам Белавежскай пушчы.**

16.02.2017 (чацвер) 18.00

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*

## 19.02 — 25.02

**(22.03. — 20.04.)** 20-22.02. — час на афармленне спраў ва ўстановах, банках, судах. Хаця 20-25.02. могуць табою завалодаць эмоцыі і можаш мець праблему з аб'ектыўнай ацэнкай сітуацыі. Старайся, каб усе твае дзеянні не толькі нікому не зашкодзілі, а нават прынеслі карысць. З 24.02. спраўна палагодзіш канфлікты ў пары. Варушыся, і іншых заахвоць да актыўнасці.

**(21.04. — 21.05.)** 19-22.02. даведаешся, на каго можаш разлічваць. Шыкуюцца змены ў коле знаёмых — хтосьці з яго выйдзе, хтосьці ўвойдзе, хтосьці з кімсьці створыць пару; вельмі добра будзеш адчуваць сябе ў новай канфігурацыі. З 23.02. не рабі радыкальных крокаў у адносінах у пары. Прыдадуцца новыя ўмеласці — запішыся на нейкія курсы, асабліва тэхнічныя.

**(22.05. — 22.06.)** 19-22.02. прачнуцца ў табе новыя захапленні і таленты. Схочацца тэсціраваць новыя кулінарныя рэцэпты, прылады, узяцца за рамонт (трэба будзе яго завяршыць!). На працы можаш атрымаць прапановы лепшыя чым канкурэнцыя. Новая праца — як рукой падаць; шыкуецца паляпшэнне ў фінансах. Можа, зайграй у латарэю?

**(23.06. — 23.07.)** Аддыхаешся ад праблем. 20-25.02. старайся не быць няўступчывым, бо шмат можаш страціць. Тваё жыццё будзе відавочна кіравацца ў добрым напрамку. Рашэнні нялёгкія, не памыліся. Не злуйся на перашкоды. Калі патрэбна юрыдычная парада, пытайся, як справу дапільнаваць і дабіцца сваіх праў. На працы пільнуй дакументаў, усё выконвай дакладна. Зайдзі на рэнтген, да дантыста.

**(24.07. — 23.08.)** Усё пойдзе па тваёй думцы і планах. Будзеш задаволены і поўны натхнення, не страціш лучнасці з рэальнасцю. Прымі да сэрца крытыку 19-22.02. Працягні руку на згоду першы. Ільвы з другой дэкады будуць мець многа задум як добра падзарабіць. Нюхай араматы, правер узровень халестэрыну (намоў да абследаванняў таксама блізкую асобу).

**(24.08. — 23.09.)** Пара на парадкі і афармленне адкладзенага. Паявяцца людзі, на якіх выклічаш вельмі добрае ўражанне. Не заглядвай у сеціва, каб праверыць, што робіць тваё былое каханне — лёс рыхтуе табе больш прыемныя і незабыўныя сюрпрызы. Магчымае парванне сяброўства, але не рэанімуй яго сілай. Будзь пільны пры мілай усмешцы фінансавага дарадцы, правярай друкаванае дробным шрыфтам. Пі тран. Не панікуй пры дыягназе, кансультуйся з іншымі спецыялістамі.

**(24.09. — 23.10.)** 20-22.02. атрымаеш прапанову, над якой варта задумацца. Інтэлігентныя забаўкі, цікавыя творчыя задумы. Не адмаўляйся ад сямейных імпрэз. У фірме ўзірайся, ці хто не рыхтуе на цябе пастку. З супрацоўнікамі жыві добра. Калі надаела табе атмасфера на працы, кроч да свабоды — адкрыюцца перад табою новыя магчымасці. Калі ты народжаны ў другой дэкадзе, перад табою прапанова ад канкурэнцыі ці ўваход у суполку, з добрымі фінансавымі перспектывамі. Будуць спрыяць табе людзі на высокіх пасадах. Пі больш вады.

**(24.10. — 22.11.)** Не праваронь карысных прапаноў 19-20.02. 19.02. разгрузі эмоцыі нават прыбіраннем. Адчакай не вельмі спрыяльную атмасферу, зоркі трымаюць над табой апеку. У пары востра, асабліва 20-25.02 (26.02. працягні руку на згоду). Дома ўсміхайся. На працы будзь не толькі паспяховым, але і ветлівым. Разгляньсяза дадатковай крыніцай прыбыткаў 22-24.02. 25.02. не трап у кабалу з законам!

**(23.11. — 22.12.)** 20-22.02. вельмі добра пакажашся на вачах у кіраўніцтва і шырэй, выявіш усе свае козыры. Прыліў вены і ідэй, мары будуць здзяйсняцца. Цікавыя стрэчы, горача ў спальні. Не злуйся на крытыкуючых сваякоў, яны хочуць табе дабра. У лячэнні кіруйся ў бок альтэрнатыўнай медыцыны.

**(23.12. — 20.01.)** Магчымыя канфрантацыі і перашкоды лёсу, але расправішся з клопатамі. Не шкадуй часу на адпачынак. 20-25.02. не будзь лішне самаўпэўненым! Нага з газу!!! З 19.02. (да 26.02.) у тваім атачэнні паявіцца вабная асоба. Сяброўства чакае выклік. 20-25.02. будзеш баявіты і зачэпны; разгрузіся фізічна. 22-24. 02. прыглянься працы іншых, як яны спраўна, кароткім шляхам вырашаюць праблемы — вучыся.

**(21.01. — 19.02.)** 20-22.02. атрымаеш вестку, якая ўвядзе цябе ў эйфарыю (можа, прапанова працы?). Будзеш адважны, ахвотны да прыгод. Будзе весела, шалёна. Пазбудзешся старых праблем, убачыш новыя магчымасці. Файна ў кампаніі, гарачы раман. Будзеш выглядаць прыгожа і адчуваць сябе лёгка. Купляй рэчы і прылады для дому.

**(20.02. — 21.03.)** Лёс табе спрые! Не прапускай нагод! 22-24.02. пабачыш канкрэтныя рэзультаты свайго дзеяння. Але 19-22.02. спадзявайся наезду асабліва марудных гасцей. Самотная Рыба няхай не кіруецца першым уражаннем звязаным з выглядам чалавека, якога лёс паставіць ёй на дарозе. Знайдзі сваё месца моцы (можа гэта быць нават фатэль, дзе адпачнеш і задумаешся).

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. месца для бяспечнай стаянкі суднаў, 2. блін з дранай бульбы, 3. хатняя прылада для прасейвання мукі, 4. між Нарвегіяй і Германіяй, 5. сукупнасць дзеянняў па аднаўленню раптоўна страчаных функцый чалавечага арганізма, 6. стромкі і глыбокі абрыў, бездань, 7. падпарадкаваны патрыярху першастаяцель царкоўнай акругі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | 2 | | | |
| | | | 3 | | | | | |
| | | 4 | 5 | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | 6 | | | 7 |
| | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 5 нумара**

Джын, дзежка, Кіеў, Ліда, Судан, табар, чай.

Рашэнне: **Калі ў студзені дажджы, дабра не чакай**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (73)

Сярод зялёных джунгляў трысняггу віднелі скошаныя ўчасткі са стагамі. Яны напаміналі паляны, высечаныя сярод гушчэчы травы. Паколькі карціна не была відавочнай з дарогі, а толькі з высі моста, прамовіла як адкрыццё і сенсацыя. Яшчэ адносна нядаўна стагі лічыліся неад'емным матывам палескага краявіду. Гэта прыблізна так, як пазбавіць Егіпет пірамід. А зараз я праціраў вочы і глядзела то на сена, то на ваду. Жывапісны вобраз, пратканы пастэльнымі колерамі спелага лета, наклікаў настальгію і адначасова пачуццё страты. Штосьць падобнае памятаю з часоў дзяцінства. Так выглядала даліна Нарвы паўстагоддзя таму назад. З касьбой і сенаваннем спалучалася асобная субкультура, акрашаная песнямі, легендамі і павер'ямі. Іх рытм і настрой вызначала рака, якую кожны адчуваў у сваёй крыві і нагах а вопыт сужыцця з прыродай падказвалі расліны, птушкі і ваўкі. Усё гэта адвечная духовая спадчына, якая расплылася ў лянівым кансумерызме і забыцці. Ці падобны лёс чакаў прыпрыпяцкіх жыхароў?

Вада на Прыпяці на тэрыторыі сяла Вэтлы, нягледзячы на двухгадовую засуху, здавалася дзіўна павышанай. На паўнаводных прытоках, разам з хатнімі гусямі і качкамі, плавалі дзікія лебедзі. Я знаходзілася ў межах Нацыянальнага парку „Прыпяць-Стаход”, ды не толькі. Ад сямі гадоў тут назначаны трансгранічны балотна-вадзяны ўчастак для вадаплаўных птушак. Зона, як прачытала я ў каляровых буклетах, набыла міжнароднае значэнне. Што гэта значыла для мясцовых людзей і прыроды? На пытанне ў сяле толькі пацiскалі плячыма.

Аднак у Любашове, дзе сядзіба нацыянальнага парку, вырашылі працаваць над расчысткай заплаўных далін. З'ява, што адлюстравала карціна са стагамі, убачаная з моста, мела пакуль фрагментарны характар. Сяляне, хоць наракалі на здзічэласць даліны, не надта ірваліся махаць дарма касой. Як тлумачылі мне на месцы, людзі яшчэ не гатовыя да такога выкліку, яны лечаць траўму пасля прымусовай працы ў калгасах. Але ў парку прыдумалі спосаб каб прыцягнуць дармовых касцоў звонку. Дзеля гэтага раз у год арганізуюць спаборніцтвы ручной касьбы.Турнір прымеркаваны да свята купалля. Зацікаўленасць перайшла спадзяванні. Зараз у рады касцоў стае мужчынскі пол з паловы раёна, як не дзіўна, большасць удзельнікаў, гэта гарадскія хлопцы. Ім не трэба спецыяльна тлумачыць пра карысць ад расчысткі даліны, якая знаходзіцца на міграцыйным шляху пералётных птушак. Арнітолагі памецілі, што на тэрыторыі парку спыняецца да 150 000 птушак 230 відаў. Тут гняздуюцца ўнікальныя віды як белая сініца, арлан-белахвост ці ачаротніца (*Acrocephalus paludicola*), занесеная ў чырвоную кнігу. У гэтым месцы я сама перажыла пяць хвілін гонару за родную старонку. Як аказалася, інспірацыя для расчысткі даліны прыйшла з партнёрскага парку з Падляшша, дакладна ад Нарваўскага нацыянальнага парку.

* * *

Пасля метафізічнай дозы, якой мяне пачаставалі ў Вэтлах, я адчувала сябе дзіўна шчаслівай. Старажытныя павер'і і жывая вера ў дапамогу вышэйшых сіл падымалі на духу. Захаплялі мяне аповеды пра народных *цаліцеляў* і вядуноў, ды іх непахісны аўтарытэт у грамадзе. Сярод балот і дзікіх трыснягоў у галаве ўсё гучаў расказ Косці Кірылюка. Даследчык гісторыі сяла, каб не паменшыць значэння народнай лекаркі, падзяліўся асабістым прыкладам. Гэта быў 1994 год. Пасля цяжкіх родаў нарадзіўся сын. У дом завіталі шчасце і трывога. У немаўляці адна рука зусім не варушылася. Бацькі аб'ехалі ўсе лякарні і палiклінікі, але ўрачы толькі круцілі галавой, ніхто не ведаў як дапамагчы. Выпадак палічылі безнадзейным ды спісалі дзіцятка ў рады інвалідаў. У сяле аднак раілі не здавацца, старэйшыя жанчыны нагаварылі жонцы з'ездзіць на хутар Вікны, да бабкі *няверкі*. Мянушка народнай лекаркі пайшла ад сяла Невір, адкуль яна прыйшла замуж. Кірылюкі паслухалі рады старэйшых. Падумалі: калі не дапаможа дык не пашкодзіць. На двары стаяла яшчэ зіма, усюды ляжаў снег. Жанчына быццам нічога не зрабіла, яна толькі паглядзела дзіця і прачытала свае *малітвы*. За першым разам бацькі не прыкмецілі адмены, аднак у зваротнай дарозе раптам перамянілася надвор'е. З-за хмар выплыла сонца, на душы стала святлей.



Пасля другога візіту на хутары Вікны, рука сынка пачала варушыцца, а з часам усё вярнулася на месца. Хвароба і немач зніклі, быццам ніколі іх не было. Зараз той хлопец вучыцца ва ўніверсітэце.

— Ён ведае што лекавала яго бабка? — спытала я ў свайго субяседніка.

— А што тут скрываць?! — здзівіўся ў сваю чаргу спадар Кастусь.

Іншы расказ датычыў злачынства і веры ў справядлівае пакаранне. Нягледзячы на багацце духоўных рэліктаў дахрысціянскіх часоў, народ у Вэтлах надта прывязаны да царквы. Калі ў 1967 годзе ў сяле раскідалі царкву, людзі перажылі агульную траўму. Сярод актывістаў, якія прыклалі руку да акту знішчэння, былі мясцовыя мужчыны. Менавіта ў іх бок былі накіраваны праклёны. Зараз няшчасныя разбуральнікаў ставяць у прыклад дзеля перасцярогі. Іх чын і пакаранне аднатаваны ў запісках пра гісторыю: *Усе мясцовыя вандалы пакончылі самагубствам. Адзін павесіўся ў лесе, другі павесіўся ў сваёй хаце, якраз у той час, калі палілі ў лесе царкоўныя кнігі, іконы і дакументы...*

* * *

Старажытны менталітэт і культура, гэта рэч вартая аховы як рэдкія віды флоры і фаўны. Яна не дазваляе падаць духам у цяжкія хвіліны.

— Вайна калісьці скончыцца — гаварылі ў Вэтлах, — а жыць жа ж трэба!

Я сама ў прыпрыпяцкіх сёлах адчувала сябе быццам у іншай краіне. Уражвала вітальнасць і энергія туземцаў. Ніхто тут не апускаў рук і не наракаў на лёс і нястачы, пры кожнай хатцы квітнелі кветкі, раслі яблыні, парэчкі. Інтрыгавала мяне знешняя прыгожасць людзей, кожны тут напамінаў сябе самога. Людзі ўсміхаліся, жартавалі. З палескай перспектывы, як нідзе ў свеце, нерваваў штучны, падмаляваны свет тэлебачання.

— А чаму вы заняліся гісторыяй сяла? — спытала я ў спадара Кірылюка.

— Бо мне заўсёды ўсё было цікавым, — адказаў статны бухгалтар.

Яго даследчыцкая праца на грамадскіх пачатках пачалася ў 2003 годзе. Пра ўсё вырашыла адна сустрэча. У сельсавет завітаў Пятро Лінік, былы настаўнік гісторыі. Ён паклаў на стол свае гістарычныя запіскі і сказаў: „Хлопцы, аддаю сваю работу, а вы яе прадоўжыце”. Неўзабаве ён памёр, якраз у дзень настаўніка...

Кастусь Кірылюк спачатку рашыў набраць тэкст на камп'ютар. Атрымалася 70 старонак друку. Але справа не давала спакою, у рукі пападалі ўсё новыя дакументы, дапамагалі выпадковыя людзі. За чатырнаццаць гадоў пошукаў і даследаў назбіралася больш за 500 старонак кніжкі. Яе каштоўнасць для мясцовай грамадскасці немагчыма пералічыць на грошы.Тут, напрыклад, апынуліся персанальныя спіскі ўсіх людзей, вывезеных гітлераўцамі на прымусовыя работы ў Нямеччыну і Аўстрыю. Спісак, з паметкай пра людзей, адлюстроўвае маштаб з'явы. З адных Вэтлаў было вывезених 104 маладых дзяўчат і хлапцоў. Падобны спісак датычыць 300 мужчын забраных на фронт, з якіх не вярнулася жывымі дамоў ажно 136 чалавек. Спадар Кастусь далучыў дэталёвы спісак мясцовых габрэяў, якія трапілі ў гета ў Камені-Каширскім і там былі знішчаны.

Шмат матэрыялаў прысвечана матэрыяльнай гісторыі сяла. У 1943 годзе немцы перасялілі ўсіх жыхароў у вёскі на беларускім баку. Дазволілі ўзяць толькі неабходныя рэчы. Пасля, калі вярнуліся на сваё месца, зноў пачыналі з нуля, бо ў канцы вайны згарэла амаль цэлае сяло. Але сяло адрадзілася, зараз у Вэтлах жывуць тры пакаленні, і гэта дае шанц на працяг духоўнай спадчыны, якой карані сягаюць глыбокіх стагоддзяў.

* * *

Старажытныя культуры — эксцэнтрычныя, яны ў першую чаргу праслаўляюць саміх сябе, свет звонку не такі ўжо ім цікавы. Настаўнік Пятро Лінік, той самы, які заразіў гісторыяй бухгалтара Кастуся Кірылюка, напісаў песню пра родныя Вэтлы. Тэкст не падыходзіў да сучасных і савецкіх украінскіх твораў. Справа ў тым, што ўкраінскія аўтары, як агню пазбягаюць слова „Палессе”. А калі ўжо, дык толькі ў якасці прыметніка. Ёсць нават адзін моўны штамп, якім заўсёды карыстаюцца прыезджыя госці ў вітальных прамовах — *чарівная поліська природа*.

Я паспрабавала перакласці са слыху тэкст Пятра Лініка.

А што абазначае слова Вэтлы? Кастусь Кірылюк не ведаў адкуль пайшоў такі дзівосны назоў сяла. Хоць пэўная падказка ідзе ад вікінгаў: „Ветле — Wetle” гэта папулярнае імя ў Нарвегіі.

*Над ракою Прыпяць, вечар прызямліўся,*
*І прастору водаў абняла імгла.*
*Як люблю цябе я, ты маё Палессе,*
*Родная старонка, дарага.*
*Вечары на рэчцы баюць шэптам казкі,*
*Зоркі выглядаюць з неба і вады.*
*Краю мой ты родны, мілае Палессе,*
*Больш прыгожага за цябе не знайсці.*
*Над ракою Прыпяць туман апусціўся,*
*Сонца сустракае ранак залаты.*
*Як люблю цябе я, Вэтлы мае родны,*
*Вэтлаўска старонка дарага.*

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**


ISSN 0546-1960